N36 СЯЛЯНСКАЯ БІБЛІОТЭКА N36

Б. Сілін і Н. Захараў.

# ЯК КАШАЛІ ПЛЕСЬЦІ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — 1926.

№ 36 ◆ СЯЛЯНСКАЯ БІБЛІОТЭКА ◆ № 36

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

Б. СІЛІН І П. ЗАХАРАЎ

# ЯК КАШАЛІ ПЛЕСЬЦІ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1925

Часта пачуеш на вёсцы, як наракаюць сяляне што дрэнна ім жывецца, што з аднэй зямлі пражыць цяжка. Яно то трохі й праўда, бо зямлі ў большасьці сялян мала, мала таксама й скаціны, а мала скаціны—мала й гною, няма чым добра ўпагноіць поле, а з пустой зямлі добрага збожжа і не спадзявайся. А тут да таго-ж або сухмень ссушыць, або град паб'е, або яшчэ якое ліха... хлеб прапаў і бядуй як хочаш.

Вось чаму шмат сялян—і мужчын, і кабет—штогод, як толькі зьбяруць з поля, пачынаюць або дома чым зарабляць, або кідаюць хату й сям'ю і ідуць у заработкі.

Зразумела, што зарабляць чым-небудзь дома, у сваёй сям'і, значна выгадней, чым на старане, у чужых людзях, бо і за гаспадаркай дагледзіш, не змарнуеш, і за яду плаціць ня трэба: хоць чорны хлеб, ды свой. Дзеля гэтага шмат па якіх губэрнях пачынаюць сяляне займацца рознымі саматужнымі промысламі. Адным з такіх промыслаў зьяўляецца пляценьне кашалёў і нарыхтаваньне й апрацоўка матар'ялаў, якія на гэта патрэбны.

І тым і другім промыслам можна займацца асобна: адны кашалі плятуць, а другія матар'ял нарыхтоўваюць і прадаюць першым. Можна-ж і аднаму і кашалі рабіць, і матар'ял нарыхтоўваць. Як бы там

ні было, але-ж першае і другое—справа выгодная й карысная і ў сялянскім-побыце можа быць добрай падмогай.

Начыньне кашыкара простае і нядорага каштуе, матар'ял, звычайна, тут-жа, каля вёскі, колькі хочаш расьце, і купіць яго—сваё заўсёды вернеш; сама работа зусім не цяжкая рабіць можа ўся сям'я, нават і старыя й малыя. Як бачым, кашэльнае рамяство для селяніна -вельмі спадручнае. Ім і займаюцца сяляне ў шмат якіх мясцох. Каля Масквы, напрыклад, асабліва ў Зьвянігародзкім і Каломенскім паветах, каля Кіеву і ў Саратаўскай губэрні цэлыя вёскі або плятуць кашалі, або нарыхтоўваюць патрэбны для гэтага матар'ял, і кожны такі саматужнік зарабляе ад 120 да 600 руб. у год.

Калі пляценьне кашалёў пачало разьвівацца, стала больш патрэбна і матар'ялаў—павялічыўся попыт на іх, асабліва на вярбовы дубец. І зараз-жа зьявіліся прамыслоўцы: у Ноўгарадзкай, Курскай, Харкаўскай і часткова ў Гомельскай губэрнях сяляне пачалі ня толькі зьбіраць і апрацоўваць дзікую вярбу, але пачалі яе садзіць і разводзіць—засадзілі самі цэлыя вярбовыя гайкі і гэтым зарабляюць ня менш, калі ня больш, чым кожны земляроб.

На Беларусі ня мала рэк, азёр, балот і ўсякіх вільготных мясьцін, дзе дзікае вярбы колькі хочаш; знойдуцца ахвотнікі можна засадзіць гайкі ўсякіх гатункаў вярбы. А як будзе вярбовы дубец разаўецца і кашэльны промысел.

Значыць, ёсьць чым паленшыць селяніну-беларусу свой дабрабыт, ёсьць чым зарабіць грошы, была-б толькі ахвота ўзяцца за працу.

## МАЙСТЭРНЯ КАШЫКАРА.

Добра, зразумела, пад майстэрню мець асобнае памяшканьне, дзе і патрэбны матар'ял і патрэбнае начыньне заусёды на сваім месцы ляжаць — шукаць доўга ня трэба. Ну, а калі такога памяшканьня няма, то можна працаваць і у хаце, толькі, каб работніку не перашкаджалі і не псавалі працу.

У майстэрні бывае кашыкару патрэбен і такі струмант, які ёсьць у кожнага дбайнага гаспадара, і, апрача таго, струмант спэцыяльны. Тут мы зьмесьцім апісаньне поўнага набору струманту і прыналежнасьцяй добра абсталяванай кашэльнай майстэрні. Кожны работнік, як прачытае пра іх, сам убачыць, што яму патрэбна зараз-жа і без чаго ён пакуль што можа абыйсьціся.

**Сталярская сякера і калодка, каб часаць дрэва** (мал. 1). Сякера кашыкару патрэбна якраз сталярская, а не цясьлярская, невялікая і лёгкая, каб была па сіле і для кабеты. Калодка можа быць з якога хочаш дзерава, а лепш сасновая або бярозавая. Выбіраць яе трэба сукаватую або вілаватую (слаі ідуць ня проста, а пакручаны)— такую калодку няскора пашчапаеш. Без сякеры не абыйсьціся: палена на форму-калодку вычасаць, кант дашкі сагнаць і г. д., — усюды сякера патрэбна. Без калодкі таксама немагчыма



Мал. 1.

абыйсьціся ў майстэрні, бо сячы або часаць на лаўцы ці парозе—хутка іх пасячэш, а кожны раз выбягаць з сякерай на двор—шмат часу страціш—нявыгодна.

**Дзьве сталярскіх пілы**—адна шырокая, другая выкружная. Шырокая піла (мал. 2) патрэбна тады,



Мал. 2.

калі прыходзіцца расьпілаваць або адпілаваць дошку, палена, тоўстую палку і да т. п. Выкружной



Мал. 3.

пілой (мал. 3) прыходзіцца адпілоўваць і выпілоўваць поўкруглыя і круглыя дзюры для каналёў.

**Шаршэбак і гэбаль.** Шаршэбкам (мал. 4) габлююць палена або дошку, якія ўжо абчэсаны сякерай; габлююць, каб зьняць з іх вялікія шурпатасьці, выраўняць—для апрацоўкі потым гэблем.

Мал. 4.

Гэблем (мал. 5) габлююць ужо начыста пасьля шаршэбка, каб зрабіць паверхню роўнаю і гладкаю.

**Аднаручка (нажоўка).** Аднаручка (мал. 6) ужываецца тады, калі трэба выпілаваць трох, чатырох, пяці, шасьці, васьмікутнія донцы для кашалёў або зарэзаць цынкі для розных зьвязак, дзе куты павінны быць правіловыя і добра зробленыя.

Мал. 5.



Мал. 6.

**Корба, або дрыль.** Корба (мал. 7), або дрыль (мал. 8) з устаўнымі пёркамі рознай велічыні патрэбны, калі прыходзіцца дзе-небудзь прасьвідраваць дзірачкі.

**Стамескі—роўная** (мал. 9), **крывая** (мал. 10) і **поўкруглая** (мал. 11). Гэтыя стамескі ўжываюцца, калі трэба апрацаваць дзеравяныя часткі некаторых гатункаў кашалёў.



Мал. 7.



Мал. 9, 10, 11.



Мал. 8.

**Тачыла** (мал. 12), **брусок** (мал. 13) і **асёлак, або масьлянае тачыла** (мал. 14). На тачыле й бруску майстар вострыць свой струмант, а асялком, які змочваецца не вадой, а маслам,— правіць іх.

Т а ч ы л а — гэта дробна-зярністы пескавік, які вычасаны накшталт кругу. Яго асаджваюць у дзеравянае карытка, якое з сярэдзіны абабіта цынкам. Каб камень быў увесь час мокры, у карытка наліваюць вады. Калі на тачыле што-небудзь вострацць, то камень або круцяць проста за ручку, або рухаюць спэцыяльнай ножнай прыладай. Т а ч ы л а павінна хадзіць роўна і правілова; вастрыць на ім трэба асьцярожна і умеючы, каб не навытачваць на камені раўчакоў і ямак, чым камень толькі



Мал. 12.

пансуецца. Камень павінен быць чысты, увесь аднолькавы, у ім не павінна быць чарапашынак, каменьчыкаў і іншых домешак.

Брусок такі-ж самы нескавік прадоўжны, роўны камень, з яшчэ больш дробнымі пяшчынкамі, чым у тачыле. На бруску, намочаным вадой, вострацъ і падпраўляюць струмант. Каб брусок ня хістаўся і ня кратаўся, яго асаджваюць у дзеравяны брус і прымацоўваюць да рабочага стала або да лаўкі.



Мал. 13.

Асёлак, або масьлянае тачыла — камень асобнага гатунку, сьветла-шэрага або зялёна - шэрага колеру, крамяны і цьвёрды. На ім струмант ня столькі вострацъ, як напраўляюць.



Мал. 14.

Увесь пералічаны струмант патрэбен у кожнай

гаспадарцы,—кожнаму спраунаму гаспадару можа прыдацца. Але, апрача гэтага, кашыкару патрэбен яшчэ і спэцыяльны струмант, як, напрыклад:

**Садоўніцкая пілка** (мал. 15). Гэта невялічкая і лёгкая пілка асабліва патрэбна пры вырабе мэблі, кашалёў, куфраў і іншых вялікіх рэчаў, дзе часта трэба адпілоўваць розная таўшчыні кавалкі.



Мал. 15.

**Садоўніцкія нажніцы** (мал. 16). Садоўніцкімі нажніцамі стрыгуць нятоўстыя сучкі, палачкі і ўсякія непатрэбныя канцы дубцоў, калі плятуць кашалі. Гэтыя-ж нажніцы патрэбны і пры нарыхтаваньні зялёных дубцоў.



Мал. 16.

**Нажы:**
садоўніцкі (мал. 17),
кашэльны (мал. 18) і
нож-разец (мал. 19).



Мал. 17.

Садоўніцкі нож патрэбен тады, калі што-небудзь прыходзіцца зразаць—палкі, дубцы, сукі і г. д. Яго ўжываюць садоўнікі, дзеля чаго ён і завецца садоўніцкім. Ён неабходны і кашыкару, якому заўсёды прыходзіцца мець справу з дубцамі і палкамі. Гэты нож вельмі карысны і пры нарыхтаваньні зялёных дубцоў: ім вельмі зручна зразаць сьвежыя дубцы.



Мал. 18.



Мал. 19.

Нож-разец—шырокі, тонкі і вельмі востры нож, яго робяць з асаблівай, добра загартаванай сталі. Яго наўскасяк завостраным канцом можна больш чыста і гладка зразаць непатрэбныя канцы дубцоў, нават у сярэдзіне сплеценага кашаля.

**Шчапала** (калун, зуб; мал. 20). Шчапала—гэта круглая, кароткая палачка, у 1/2 цалі таўшчыні і каля 3 цаляй даўжыні. Як відаць на малюнку, з аднаго канца гэта палачка круглаватая, а з другога мае 3, 4 і нават 6 асабліва завостраных ражкоў. Шчапалы робяць мэталёвыя—пераважна жалезныя,—рогавыя і дзеравяныя з чорнага дрэва, з белага буку або з якога іншага цьвёрдага гатунку дрэва. Шчапалы можна купіць гатовыя, можна зра-



Мал. 20.

біць на заказ, а то й самому змайстраваць. Шчапалам, або калуном, як і сама назва паказвае, шчапаюць дубцы на тры, чатыры, а грубыя—і на шэсьць частак, якія завуць шынамі. Гэта робяць так: адбі-



Мал. 21.

раюць на шчапаньне дубцы больш грубыя і мочаць іх у вадзе. Калі яны размокнуць, бяруць адзін дубчык і адразаюць тонкі канец (гэтыя канцы захоўваюць,—яны пойдуць на невялікія кашалі). Камель дубца кашэльным нажом надшчапляюць накшталт

зоркі. У гэты надшчэп устаўляюць шчапала і, націскаючы яго рукой зьверху, шчапаюць дубец ад камля аж да канца вяршынкі на тры, чатыры і нават шэсьць частак (мал. 21).

**Струг** (мал. 22). Струг для кашыкара—тое-ж самае, што гэбаль для сталяра: ім стругаюць нашчапаныя шыны да належнай таўшчыні. Стругі робяць двух гатункаў: адзін—з адпэй шрубай і рухомым жалезкам; гэты струг зручнейшы, але затое і



Мал. 22.

больш складаны; яго трэба купіць або заказаць, паводле малюнка, добраму майстру. Другі струг—прасьцей, яго можа зрабіць усякі сьлёсар і нават каваль, затое і рабіць на ім менш зручна.

Першы струг (мал. 22а) складаецца з дзьвюх дзеравяных калодак *А* і *Б*. Калодка *А* мае 8 цаляй даўжыні і 2 цалі таўшчыні, даўжыня калодкі *Б*—3 цалі, а таўшчыня — $2\frac{1}{2}$;




Мал. 22а.

шырынёй абедзьве калодкі па 3 цалі. На калодцы *А* упушчана мэталёвая пласьцінка *1*, а да калодкі *Б*

прымацована сталёвае вострае жалезка *д*. Абедзьве калодкі з аднаго канца змацованы пятлёй *В*. Калі падкручваць або адкручваць баранчык *ж* на шрубе *е*. то незмацованы канец калодкі *Б* з жалезкам *д* будзе падымацца і зьніжацца, а, дзякуючы гэтаму, паміж жалезкам *д* і пласьцінкай *г* утворыцца шчыліна накшталт кута. У шырокі канец гэтай шчыліны кладуць нашчапаныя шыны і цягнуць іх да сябе стругаюць. Чым бліжэй да шрубы стругаць, тым шына будзе больш тонкай, і наадварот.

Другі струг (мал. 23) складаецца з мэталёвай пласьцінкі *б* (даўжыня 10 цаляй, шырыня 6 цаляй) з дзьвюма таксама мэталёвымі дужкамі—*в*, праз якія праходзяць наскрозь шрубы *г*. Сталёвае



Мал. 23.

вострае жалезка *а* (даўжыня 7 цаляй, шырыня 1½ цалі, таўшчыня ў тупым канцы ¼ цалі) падкладваецца пад шрубы і прыціскаецца імі да пласьцінкі *б*. Дзеля таго, каб паміж пласьцінкай *б* і жалезкам *а* зрабілася шчыліна, праз якую будуць працягваць і стругаць шыны, пад абодва канцы сталёвай жалезкі падкладваюць дзеравяныя клінкі-загваздкі так, каб шчыліна вышла, як у першым стругу накшталт кутка. Пласьцінку *б* прымацоўваюць да дзеравянай дошкі *Б* (даўжыня 7½—8 цаляй, шы-

рыня $4^{1}/_{2}$—5 цаляй, таушчыня 1—$1^{1}/_{2}$ цалі). Дошка ***Б*** на стойцы *А* і з надножай *В* утвараюць нібы столік, вышынёй вяршкоў 12, 14, 16. Гэты столік-




Мал. 24.

струг ставяць каля лаўкі, табарэткі, крэсла. Майстар сядае, абедзьве нагі ставіць на падножу *В*, падсоўвае пад жалезку—у шырокі канец шчыліны—то адзін. то другі канец шыны і працягвае да ся-




Мал. 25.

бе; такім чынам ён стругае яе да належнай таўшчыні. Выструганыя шыны пакуль яшчэ не аднолькавай шырыні. Каб яны былі патрэбнай шырыні, іх шмоляць.

**Шмол** (шмалер, нумароўка; мал. 24, 25, 26). Шмол патрэбен кашыкару, каб зрабіць выструганыя ўжо

шыны аднолькавай шырыні. Самы просты шмол (мал. 24) робіцца гэтак: у брусок з моцнага дрэва (даўжыня 4, шырыня 2 і таўшчыня 1½ цалі) упушчаюць наглуха два сталёвых з вострым краем жалезкі *б* і *в* (1 цаля вышыні над бруском, 1½ цалі шырыні) так, каб паміж іх вострымі краямі была такая адлегласьць, якой шырыні павінны быць шыны. Перад вострымі краямі жалезак у брусок упушчана шліфаваная мэталёвая або шкляная пласьцінка *г*, гэта дзеля таго, каб шыны пры рабоце лепей прасьлізгівалі.



Мал. 26.

Ужываюць шмол так: шыну бяруць правай рукой за тонкі канец, кладуць яе на шмол паміж жалезкамі *б* і *в*, вялікім пальцам левай рукі (што трымае шмол) зьлёгка прыціскаюць шыну да пласьцінкі *г* і, не выпускаючы з правай рукі канца шыны, працягваюць яе ад сябе паміж жалезкамі аж да самага канца. Такім парадкам уся шына будзе мець аднолькавую шырыню. Калі патрэбны будуць шыны другой шырыні, то

патрэбны і другія шмолы. Гэтым і ня зручны той шмол, які мы апісалі, а дзеля таго прыдумалі іншыя шмолы.

Шмол, што паказаны на мал. 25, зручней за першы. Тут верхняя пласьцінка *а*, на якой шмоляць шыны, рухомая (можа совацца). Адзін яе канец змацованы з ніжняй часткай струманту *б*, а другі канец можа зьніжацца і пры дапамозе шрубы *в* падымацца на якую хочаш вышыню перад жалезкамі-нажамі, якія настаўлены кутом і прымацованы шрубамі да *б*. Гэтым шмолам можна зрабіць шыны якой хочаш шырыні.

Шмол, паказаны на мал. 26, лічыцца самым лепшым і найбольш зручным, бо, папершае, *а* і *б* у ім рассоўваюцца, што дазваляе шмоліць якія хочаш шыны, а падругое, калі адкруціць шрубы *в* і *г*, то нажы можна вынімаць і вастрыць, калі трэба.

**Шмыгоўка** (мал. 27). Пры вырабе невялікіх кашалёў тонкай, работы шыны, якія ўжо выструганы і шмолены, трэба яшчэ апрацаваць так, каб на іх быў узор—розныя палосы. Для гэтага ўжываецца шмыгоўка. Шмыгоўка робіцца вось як: сталёвая пласьцінка *а* (даўжынёй 6, шырынёй $1\frac{1}{2}$ цалі) зьлёгка сагнута. На ўнутранай яе паверхні, па краёх, месцах у 3-х, 4-х, ёсьць маленькія жалабкі з нарэзкамі накшталт баразёнак. Гэтыя жалабкі на абодвух краёх пласьцінкі разьмешчаны якраз адзін супроць другога (мал. 28). Ужываецца шмыгоўка гэтак: вузкі і больш тонкі канец шыны падсоўваюць, прыкладам, у нарэзку *б*; пераймаюць гэты канец на другім баку пласьцінкі і выцягваюць усю шыну,—на ёй выходзяць палоскі.

Шмыгоўку паводле малюнку і данай велічыні можа зрабіць кожны сьлёсар.


Мал. 27.

**Біла** (ізер; мал. 29). Біла—гэта жалязяка, даўжынёй 11, шырынёй—у сярэдзіне $1^1/_8$, а ў канцы $^3/_4$ цалі, таўшчынёй $^5/_8$ цалі, а ў канцы трохі танчэй. Біла ўжываецца для зьбіваньня сплеценых радкоў, каб зрабіць іх шчыльнымі. Пры вырабе больш дробных рэчаў з тонкім пляценьнем, такое біла—цяжкое: ім можна пабіць і сапсаваць работу;—дзеля таго робяць білы яшчэ меншыя і больш лёгкія. Зрабіць біла можа ўсякі каваль.

**Жамка** (мал. 30). Гэта жалезны струмант ад $7^1/_2$ да $11^1/_2$ цаляй даўжыні і $^1/_2$, $^3/_4$ цалі таўшчыні. На канцы ён мае крукі. На адным канцы крук з простымі кутамі ў сярэдзіне, а на дру-

гім з усіх бакоў закруглены. Жамкай выпростваюць крывыя палкі або выгінаюць іх, калі і як патрэбна. Жамку можа зрабіць і каваль і сьлёсар.



Мал. 28.

**Шыльлі** (мал. 31). Кашыкару неабходна мець шыла, але лепей іх мець не адно, а тры—рознай даўжыні і таўшчыні. Адно шыла павінна быць вялікае



Мал. 29.

(даўжынёй у 5 цаляй, а таўшчынёй пры калодачцы ў 1/2 цалі); другое сярэдняе (даўжынёй у 4 цалі, а таўшчынёй у 3/8 цалі); трэцяе малое (даўжынёй у 3, а таўшчынёй у 1/4 цалі). Шыла заўсёды патрэбна кашыкару, без яго яму не абыйсьціся. Малое і нават сярэдняе шыла можна купіць у краме, а вялікае прыдзецца заказаць сьлёсару.



Мал. 30.







Мал. 31

**Малаток** (мал. 32). Малаток ёсьць у кожнага гаспадара, але кашыкару патрэбен малаток асабліва лёгкі, невялічкі: у аснаваньні *аб і ві* на $^{3}/_{4}$ цалі, а вышынёй *де* $2^{1}/_{2}$ цалі. Такім малатком можна ўвагнаць і сярэдняй велічыні цьвік і самы маленькі цьвічок, а абмахнешся, дык пляценьня не папсуеш. Такі малаток можна і ў краме знайсьці, а лепей заказаць спэцыялістаму сьлёсару.


Мал. 32.

Кашыкару, апрача таго, бывае патрэбны і такі струмант, як, напрыклад, **абцугі** (мал. 33), каб выцягнуць цьвік, **кусачкі** (мал. 34), каб адкусіць непатрэбны канец цьвіка, які вылез вон, а загнуць яго няможна, і **плоскагубцы** рознай велічыні (мал. 35). Плоскагубцы патрэбны тады, калі прыходзіцца ўжываць дробныя цьвічкі, якія ня выцягваюць абцугамі і ня ўбіваюць малатком, а ўціскаюць і выцягваюць плоскагубцамі.


Мал. 33.

**Дошкі для работы.** Гэтыя дошкі патрэбны для пляценьня чатырохкантовых донцаў для кашалёў, куфраў і дарожнікаў; на іх-жа, замест стала, плятуць і кашалі. Для донцаў зьбіваюць дошку даўжынёй 16—18, шырынёй 10—12 вярш-


34 Мал..

коў і $^{3}/_{4}$ або 1 вяршок таўшчынёй (мал. 36). У дошцы пракручваюць дзіркі у 4-5 радкоў так, каб у першым радку былі дзіркі большшырокія (каб увашоў канец палкі сярэдняй таўшчыні) і далей адна ад аднэй (звяршок ад краю да краю), а ў кожным далейшым радку дзіркі ўсё вузейшыя і ўсё бліжэй адна ад аднэй; гэтыя радкі пад меншыя донцы. У кожным радку ўсе дзіркі аднолькавыя, толькі крайнія з кожнага боку– шырэйшыя.



Мал. 35.

Другая дошка, на якой, як на нахіленым стале плятуць кашалі, паказана на мал. 37. Яна такой самай велічыні, як і першая. Каб кашэль у часе работы ня ехаў уніз па дошцы, яго прымацоўваюць да дошкі шылам. Ніжні край дошкі работнік упірае ў брус, які прыбіты да падлогі.

**Стол для работы** (мал. 38). Стол гэты зручнейшы за дошку. Яго робяць, як звычайны стол для яды, з шуфлядай, толькі трошкі іншай велі-

чыні. Верх на ім робяць даўжынёй у 16—18 вяршкоў, шырынёй у 12—14, а таўшчынёй у 1 цалю; вышыня стала 12-13 вяршкоў, у залежнасьці ад




Мал. 36.

росту работніка. Каля стала работнік сядае на асобны нізенькі услончык, вяршкоў 6 вышынёй, або на што-небудзь іншае, такой самай вышыні.

Да аднаго з удоўжных краёў стала прыкручваецца планка у 1-1½ цалі шырыні і такой самай даўжыні, як верхняя дошка. Паміж планкай і верхам стала заціскаюць кліны; у шчыліну, якая зробіцца ад гэтага, майстар расстаўляе і ўмацоўвае, калі гэта патрэбна, аснову для дна. У залежнасьці ад таўшчыні кліноў, шчыліну можна рабіць і шырэй і вузей, а дзеля таго на рабочым стале можна плесьці якія хочаш донцы для чатырохкантовых кашалёў. У шуфляду кладуць струмант, які ў час работы заўсёды павінен быць пад рукой.

Добры майстар сам можа зьбіць такі стол і услончык, а ня здолее прыдзецца заказаць іх столяру ці цесьлі, што будзе каштаваць рублёў 5-6.



Мал. 37.

**Ванна**. З сухога матар‘ялу, які-б ён ні быў, нічога не спляцеш, бо сухі матар‘ял нягнуткі і на выгінах будзе ламацца, асабліва вярбовы дубец, які зьяўляецца самым галоўным матар‘ялам для пляценьня. Каб усякі матар‘ял зрабіць гнуткім і прыдатным да работы, яго або зьлёгка намочваюць анучкай, або размочваюць, як мае быць. Значыць, у кашыкара пад рукой заўсёды павінна быць вада. Ваду наліваюць у вядро ці ражку, калі матар‘ял трэба намочваць анучкай толькі зьлёгка, або ў даўгое карыта, дзе можна палажыць мокнуць цэлы

пук доўгіх дубцоў. Лепей-жа за ўсё мець для гэтага спэцыяльную ванну (мал. 39); даўжынёй яна бывае аршыны 2-2½, шырынёй вяршкоў 14—16 і




Мал. 38.

вышынёй вяршкоў 12. У вялікіх багатых майстэрнях ванну робяць з тоўстай бляхі, а ў сярэдзіне хварбуюць сурыкам. Гэтая ванна дарагая. Можна



Мал. 39.

зрабіць ані ня горшую ванну прасьцей і таней. Робяць яе гэтак: з вяршковых ці паўтаравяршковых дошак зьбіваюць шчыльную, узятую на цынкі скрыню вышэйпаказанай велічыні; у сярэдзіне яе абіваюць цынкам, а каб вада нідзе не працякала, склёпкі між лістамі нітуюць волавам. Такую ванну ставяць не на падлогу, а на нізкія казялкі так, каб адзін канец быў крышку вышэй ад другога. Гэтак лепш зрабіць дзеля таго, што вада тады будзе сьцякаць у вадзін бок і брудную ваду з ванны будзе лягчэй вычарпаць. Гэтую ваду можна вылі-ваць і праз крант, які робяць у дне ванны, або збоку, каля дна. Можна абыйсьціся і бяз кранта трэба толькі ў дне, дзе зручней, пракруціць дзірку, як гэта робяць у бочках, і заткнуць яе дзеравяным шпунтам; калі трэба ваду зьліць шпунт вымаюць.

**Прымернікі** (шаблёны, бюгэлі). Прымернікі (мал. 40, 41, 42) гэта абручы, якія зьбіты з дошчачак ці палак, або пазгінаты з дубцоў. Яны бываюць



Мал. 40.



Мал. 41



Мал. 42

самай рознастайнай велічыні і формы; робіць іх сам майстар тады, як яны яму патрэбны. Прымернікі дапамагаюць работніку выплесьці патрэбную форму

кашаля. Ужываюць прымернікі так: калі дно кашаля гатова, і аснова пастаўлена ў сярэдзіну будучага кашаля, устаўляюць прымернік і вяровачкай ці мачульлём прывязваюць яго да кутавых слупкоў чатырохкантовых кашалёў (мал. 43. *А*, *Б*, *В*, *Г*) або ў трох-чатырох месцах да асноўных дубцоў поўкруглых ці круглых кашалёў (мал. 37 *а*, *б*, *в*, *г*) прывязаўшы, пачынаюць плесьці; калі трэба, прымернік або падымаюць, або зьніжаюць.

**Формы.** Формы робяць для таго-ж, для чаго й прымернікі. Яны таксама бываюць рознастайнымі, паводлуг свае велічыні і фасону. Робяць іх розным спосабам: зьбіваюць з палак і дошчачак формы для кашоў больш буйных, як, напрыклад, кашы пад паперу, пад продукты і г. д. (мал. 44, 45); точаць і выстругваюць з цэлых кавалкаў дрэва формы для больш дробных вырабаў, як, напрыклад, акрасы на елку, дзіцячыя бразгаўкі і г. д. (мал. 46, 47).



Мал. 44.



Мал. 45.

Формы ўжываюць так: плятуць перш донца; гатовае донца тонкім цьвічком прымацоўваюць да дна формы і апошнюю абплятаюць. Калі пляценьне зроблена, форму вымаюць. У тых выпадках, калі форма фігурная, як *Г* на мал. 46, то яе робяць складанай з двох ці трох частак. Такія формы, як *Б* і *В* (мал. 47, для дзіцячых бразгавак) расшчапляюць на некалькі частак, прычым гэтак, што у сярэдзіне ўтвараецца клін *а*. Калі





Мал. 46.











Мал. 47.

трэба плесьці бразгаўку, усе часткі зьбіраюць, зьвязваюць ніткай і абплятаюць. Як бразгаука ужо гатова, то перш дастаюць клін, тады ўсе іншыя часткі выкінуцца самі.

## МАТАР'ЯЛ ДЛЯ КАШЭЛЬНАЙ ВЫТВОРЧАСЬЦІ.

Усялякія дубцы, якія гнуцца, як толькі хочаш, і не ламаюцца, могуць прыдацца ў кашэльнай вытворчасьці. Найбольш-жа прыдатны для кашыкара вось якія расьліны:

**Павойнік звычайны;** з яго маладых гнуткіх галін можна плесьці ўсякія простыя кашалі, як, напрыклад, для пакаваньня і перасылкі розных рэчаў.

**Сьвідзіна** (глог, дзёран); дубцы —доўгія і гнуткія ідуць на кашы сярэдняга гатунку, але самі дубцы малаўраджайныя і іх цяжка зьбіраць.

**Чаромха;** маладыя парасьнік на месцы сьсечанай чаромхі дае вельмі доўгія і роўныя дубцы. Але яны затоўстыя і могуць ісьці толькі на простыя кашы, як, напрыклад, на кашы ў драбіны і да т. п.

**Ляшчына** (арэшнік звычайны); доўгія дубцы і тонкія палкі даюць добры матар'ял, прыдатны для пляценьня кашоў у экіпажаў і на ўсякія кашалі. Ляшчынавыя палкі вельмі лёгка шчапаюцца на тонкія шыны; з выструганых шын можна плесьці якія хочаш вельмі моцныя кашалі.

**Таполя пірамідальная і ясакар, або таполя белая і чорная.** Калі сьпілаваць верхавіну таполі, яна дасьць шмат маладых атожылкаў; гэтыя атожылкі—часамі вельмі доўгія—ідуць на простыя кашы, а больш за ўсё ўжываюцца на ручкі і ножкі пры вырабе плеценай мэблі.

**Вярба розных парод.** Дубцы і палкі вярбы даюць матар'ял, прыдатны на ўсякія работы ў кашэльным рамястве. Аб гэтым матар'яле мы яшчэ будзем гаварыць далей больш падрабязна.

## ДАПАМОЖНЫ МАТАР‘ЯЛ У КАШЭЛЬНАЙ ВЫТВОРЧАСЬЦІ.

**Гішпанскі чарот, ротанг**, які ў продажы завецца парасійску ***камышом.*** Гэты чарот з пароды пальмаў; ён расьце па вільготных мясцох у цёплых старонках. Яго радзіма—далёкі ўсход, Усходняя Індыя. Гэта расьліна адзначаецца тым, што яе сьцяблы растуць ня ўверх, а распаўзаюцца ва ўсе бакі, часамі крокаў на 500 ад караню. Корань дае множства доўгіх вузлаватых сьцяблоў, якія паўзуць то пад самай паверхняй зямлі, то па зямлі, то ўспаўзаюць на дрэвы аж да самых верхавін і адтуль віснуць уніз. З сваіх вузлоў гэтае дрэва выпускае новыя корані і новыя сьцяблы, якія зноў распаўзаюцца ва ўсе бакі і так у іншых мясцох заплятаюць лес, што без сякеры праз гэтую гушчэчу і не прайсьці. Тубыльцы, якія зьбіраюць гэтую расьліну, працуюць толькі нажом. Яны выбіраюць пераважна тыя сьцяблы, што паўзуць уверх на дрэвы, бо яны—самыя прыдатныя. Адсекшы ўнізе сьцябло, з самага канца яго абдзіраюць кару, потым робяць у дрэве раскеп, устаўляюць у яго гэты канец і працягваюць усё сьцябло, якое, такім чынам, абчышчаецца ад лісьця, зачэпак і абалонкі. Гэты, ужо абчышчаны ротанг (чарот) зьвязваюць у пукі па 100 шт. у кожным, сушаць,—і матар‘ял гатоў у продаж. Там, на месцы, ён не дарагі: 100 пукоў 10.000 штук ня вельмі даўно можна было купіць за 5 гішпанскіх талераў, г. зн. блізка 11 рублёў.

Таўшчыні гэты чарот бывае рознай: ад 3 да 12 мілімэтраў (0,14 0.56 цалі). Колер—ад чыста-жоўтага да цынамонавага і рудага. Лепшы матар'яя мае сьветлы колер; руды колер паказвае на дрэнны гатунак тавару: рудыя сьцяблы звычайна крохкія.

Калі чарот разрэзаць упоперак, то ясна відаць тры слаі: сітавінкавая сарцавіна, валакністая драўніна і тонкая шклістая, накшталт глязуры, абалонка, такая цьвёрдая, што яе ледзьве бярэ нож. Пры рабоце трэба глядзець, каб глязур гэты не адскакваў ад сьцябла. Сыры чарот сартуюць, прамываюць, адбеліваюць, і ён ідзе ў работу або ў далейшую апрацоўку. Апрацоўкай ротангу займаюцца больш у Нямеччыне. Там ёсьць цэлыя фабрыкі, дзе сьцяблы ротангу расшчапляюць на дубцы і ніці рознай таўшчыні; дубцы прапускаюць або праз варстат з зубкаватымі вальцамі, адкуль яны выходзяць зусім круглымі, або праз стругальны варстат, з якога яны выходзяць доўгімі, тонкімі, з аднаго боку бліскучымі вузкімі стужкамі. Цэльны ротанг ідзе ў работу або ў сваім натуральным колеры, або яго хварбуюць у розныя штучныя колеры. Выструганы круглы чарот завецца *пэдыам*.

У нас, у Саюзе, няма фабрык для апрацоўкі ротангу, дзеля таго яго прыходзіцца або выпісваць беспасрэдна з заграніцы, або купляць праз фактараў, якія прадаюць яго ў нас пад назваю камышу. Пуд камышу, у залежнасьці ад таўшчыні, каштаваў ад 4 да 28 рублёў.

Мы гэтак падрабязна спыніліся на ротангу-камышы затым, што ён, пасьля вербавага дубца, займае першае месца ў кашэльнай вытворчасьці. Ён


Мал. 48.

прыдатны на ўсякі выраб. Круглы камыш-пэдыг ідзе замест вярбовых дубцоў: з яго робяць трысьціны выбіваць пыл з адзеньня і дываноў (мал. 48, 49), трымалкі для газэт (мал. 50) ён—лепшы матар'ял для якіх хочаш узораў у шырмах (мал. 51, 52, 53), у кашалёх (мал. 54, 55); з яго робяць прыгожую плеценую садовую і габінэтную мэблю (мал. 56, 57) і розныя кашалі (мал. 58). З выструганых камышовых шын плятуць сядзеньні (мал. 59) і сьпінкі ў крэслы (мал. 60); гэтыя-ж шыны йдуць на абвязку, абмотку і змацоўку ў вырабах з вярбовых дубцоў.


Мал. 49.

**Бамбус.** Гэта таксама чарот цёплых старон, вышынёй ад 2 аршын 6 вяршкоў да 3 аршын 4 вяршкоў (1,7—2,3 мэтра). Ён ідзе замест палак пры вырабе шырмаў (мал. 61) і асабліва мэблі (мал. 62, 63).

**Рафія**—заграніčны тавар накшталт нашага мачульля, толькі мацней і з глянцам. Ідзе на пляценьне і акрасу розных

невялічкіх кашалёў, напрыклад, пад цукеркі, пальчаткі (мал. 64, 65).



Мал. 50.

**Люфа**—абалонка пладоў некаторых дрэў, якія растуць на поўдні (завуцца „пальмы"). Ідзе, як і рафія, на выраб дробнага кашэльнага тавару і асабліва кошыкаў пад кветкі (мал. 66).

З заграмічных матар'ялаў можна яшчэ адзначыць валокны **пнасавы**, якія падобны да жорсткіх конскіх валасоў, і **пальмавае лісьце;** і валокны, і лісьце ідуць, галоўным чынам, на пляценьне і акрасу дробных кашэльных вырабаў і асабліва каляровага тавару (кошыкаў пад кветкі).



Мал. 51.

Калі заграмічных успаможных матар'ялаў няма пад рукой, так што-небудзь і дома можна знайсьці, напрыклад: добрае **мачульле,** замест рафіі; **лыка**, якое цынуюць (рэжуць на стужкі

і вырабляюць, як для пляценьня стужкай (мал. 67).

**Бяроста**. Бяросту дзяруць з маладых дрэў, якія сьсечаны на дровы; яе цынуюць, як і лыка. Мачульле, лыка, бяросту можна з посьпехам ужываць пры вырабе ўсякіх дробных плеценых рэчаў.


Мал. 52

**Сітнік**. Сітніку колькі хочаш расьце па нашых балотах і па затоках шмат якіх рэк. Ён служыць добрым успаможным мат'ялам у кашэльнай вытворчасьці, а дзеля таго аб ім трэба пагаварыць больш падрабязна.

*Нарыхтаваньне сітніку*. Калі сітнік як сьлед разаўецца, але не загрубее, прыкладам, у канцы ліпня або ў пачатку жніўня, яго косяць у вадзе, выносяць на бераг і сушаць. Гэта робяць так: адзін-два работнікі йдуць у ваду ў сітнік; там яны вяршынкі сітніку зьбіраюць і моцна зьвязваюць у невялікія пукі. Калі навяжуць пукоў колькі трэба, бяруць косы і косяць спрытна сітнік, як траву; скошаны сітнік напалову плавае ў вадзе. Тады бяруць за верхавіны і выцягваюць яго на бераг; часамі зьвязваюць па некалькі верхавін пукоў, пры дапамозе вяровак падпрагаюць каня і выцягваюць на бераг адразу шмат сітніку. На беразе яго вяжуць у снапы і вязуць дамоў сушыць.

Каб атрымаць добры матар'ял, сушыць сітнік трэба асьцярожна. Калі яго ня шмат, то зялёны сітнік раскідаюць тонкім пластом на гары ў хаце, на вышках у хляве ці ў якім-небудзь іншым месцы, дзе ходзіць вецер і не дастае дождж. Час-ад-часу яго там паварачваюць, як сена, і ён паступова высыхае. Тады яго вяжуць у снапкі і трымаюць дзе-небудзь у цяньку і абавязкова ў сухім месцы — ад сонца сітнік жоўкне, а ад вільгаці псуецца: на ім зьяўляюцца цёмныя плямы.



Мал. 53.



Мал. 54.

Калі сітніку нарыхтована шмат, то зараз-жа, як ён скошаны, яго вяжуць у снапы, вяршкоў у 14 таўшчынёю і дзе-небудзь на сонцы



Мал. 55.

стаўляюць старчком снапоў па 7-8 у круглыя мэтлікі (як жыта, толькі не накрываюць зьверху); гэтак даюць пастаяць з тыдзень. Праз тыдзень мэтлікі


Мал. 56.

перастаўляюць так, каб снапы з сярэдзіны мэтлікаў апынуліся знадворку і наадварот, і зноў пакідаюць на тыдзень. Як сітнік добра падсохне, снапы разьвязваюць і стаўляюць ня вельмі густа дзе-небудзь каля сьцяны, плоту, абы не на сонцы, і пакідаюць тут сітнік датуль, покі ён ня высахне як сьлед і не набудзе прыгожага жоўта-зялёнага ці сьветла-жоўтага колеру. Тады яго зноў вяжуць у снапкі і хаваюць у сухім цяністым месцы.

Можна сушыць сітнік трохі йначай. Дзе-небудзь, дзе нішто не зацямняе ад сонца, у зямлю забіваюць невялікія слупкі; на слупкі кладуць дзеравяныя рамы, якія абцягнуты накшталт сеткі тонкім шнагатам; на рамы тонкім слоем расьсьцілаюць сітнік. Тут яго грэе сонца, зьверху і зьнізу прахватвае ветрам, і сьцяблы хутка сохнуць. Каб не намачыла даждЖом або вячэрняй расой. трэба ў час

рамы з сітнікам уносіць куды-небудзь у сухое памяшканьне. З сухім сітнікам робяць так, як ужо казалася вышэй.

*Работа з сітнікам.* Перад работай сітнік заўсёды перш мочаць. На кашалі ўжываецца ён і асобнымі дубцамі, і пляцёнкай. Пры вырабе маленькіх кашалёў—на елку, пад кветкі, сухары і г. д., ідуць у перамешку з саломай або стружкамі асобныя дубцы сітніку. Для большых кашалёў—вялікіх кветнікаў, кашалёў-куфэркаў, дарожнікаў, а таксама пры вырабе плеценай мэблі і асабліва мат (дываноў пад ногі), ужываецца пляцёнка. Пляцёнку плятуць так, як дзяўчаты свае косы—у тры пасмы, як паказана на мал. 68. Каб пляцёнка была роўная, заўсёды, калі гэта трэба, новы дубец закладаюць не вяршынкаю, а камлём. Як сплятуць вялікі кавалак пляцёнкі, яго зматваюць петлямі. усё роўна, як лейцы ці вяроўку, і зноў плятуць колькі патрэбна.



Мал. 57.



Мал. 58.

**Сасновая лучына і сасновы корань.** Гэты матар'ял даўно ўжо вядомы на вёсцы. Шмат дзе ся-


Мал. 59.

ляне шчапаюць сасновую лучыну і з яе плятуць кошыкі, а з сасновага караню — розныя торбы, кашолкі і нават мэблю.


Мал. 60.

**Асінавая стружка.** Стружку

нарыхтоўваюць накшталт стужак рознай шырыні: з вузкай стужкі робяць пляцёнку на розны ўзор. Недалёка ад Ленінграду ёсьць фабрыка дрэўнай стужкі. Фунт яе каштуе 50—70 к., а пляцёнка прадаецца па 1 р. 25 к.—1 р. 50 к. за пук у 30 аршын. Гэты матар'ял—натуральнага белага колеру або хварбаваны — ідзе на пляценьне і акрасу невялічкіх прыгожых кашэльных вырабаў.



Мал. 61.

Самым пашыраным і карысным матар'ялам, пасьля вярбы, камышу і сітніку зьяўляецца *салома збожжавых расьлін*— жыта, ячменю, пшаніцы, аўсу і рыжу. Але з усіх іх лепшым матар'ялам для пляценьня лічыцца тонкая салома азімага' жыта і пшаніцы-азімкі. У некаторых краінах для пляценьня разводзяць на бедных горных грунтох асобны гатунак саломы, так званай *марзолянавай*, якая зьяўляецца адменай пшаніцы-яркі і вызначаецца асаблівай гнуткасьцю і тонкасьцю сьцяблоў. Але нядрэнная салома і з нашых палёў. Пшанічную і ржаную салому для пляценьня зразаюць асобна, раней чым каласы зусім дасьпеюць, і нагля-

даюць пры гэтым, каб сьцяблы не ламаліся. Сабраную салому адбельваюць на сонцы або з дапамогай серкі, потым сартуюць паводле таўшчыні, адразагюць каласы і зьвязваюць у невялікія пукі; пасьля гэтага яна ўжо гатова і



Мал. 62.



Мал. 63

можа ісьці ў работу або ў натуральным выглядзе—



Мал. 64.

адбеленая, або ахварбованая у яскравыя колеры



Мал. 69.



Мал. 70.

анілінавымі хварбамі. З саломы, якая апрацована паказаным спосабам, плятуць перш пляцёнку рознай шырыні і на розны ўзор (мал 69), і ўжо гэтая пляцёнка ідзе ў работу: ёй аднэй або ў перамешку з другімі матар'яламі аплятаюць кашалі (мал. 70).

Выраб саломенай пляцёнкі — справа не цяжкая. Ім могуць нават займацца дзеці, ня кажучы аб дарослых. Падлетак, які ўжо налажыўся да гэтай работы, за зімовы дзень можа сплесьці блізка 40 арш. пляцёнкі. У Саратаўскай губэрні і часткаю у Самарскай жыхары, пераважна немцы, якія там жывуць, выробляюць гэтулькі пляцёнкі, што яе хапае амаль не на ўсіх сама-

тужнікаў-кашэльнікаў і ўсе кашэльныя прадпрыемствы нашага Саюзу. Там гэты занятак зьяўляецца вельмі шырака распаўсюджаным саматужным промыслам і корміць тысячы работнікаў.

## ВЯРБА (л а з а, і в а).

Ня гледзячы на тое, што ўсе паказаныя матар'ялы вельмі добрыя, але зусім замяніць вярбу ў кашэльнай вытворчасьці яны ні ў якім разе ня здолеюць. Вярбовыя дубцы і палкі былі і будуць самым прыдатным і каштоўным матар'ялам для кашыкара. Нават кара, якую зьдзіраюць пры апрацоўцы вярбы, і тая не прападзе дарэмна: яна можа даць зыск, як добры гарбоўны (дубільны) матар'ял для гарбарань, як вельмі добрае ўпагноеньне, урэшце. А дзеля таго кашыкару ня шкодзіць добра пазнаёміцца з вярбой, з яе гатункамі, з тым, як яе разводзіць, апрацоўваць і як яе ўжываць.

Гатункаў вярбы шмат. Некаторыя вучоныя налічваюць іх каля 400, вучоны-ж Брокман кажа, што ёсьць усяго толькі 40 гатункаў, больш вядомых і больш прыдатных для кашэльнай вытворчасьці. Мы спынімся тут толькі на некалькіх гатунках, якія даюць найбольш каштоўны матар'ял для кашэльных вырабаў і разводзіць якія ў нас лёгка і выгадна.

**Вярба-чырвоналоз** (тальнік, тала; мал. 71). Гэтая вярба дае самы белы матар'ял для кашэльнай вытворчасьці. Яна расьце нявысокімі кустамі і яе лёгка пазнаць па такіх адзнаках: бліскучая, чырвонага колеру кара, лісьці—доўгія, ня надта вузкія, голыя, зарубчастыя, сьпераду завостраныя, з жоў-

таю сярэднюю жылкаю; колер лісьця—зьверху цёмна, а зьнізу сьветла-зялёны; ліставыя хвасткі—кароткія, з прылісткамі. Дубцы гэтай вярбы моцна галінякца і густа ўкрыты лісьцем.

Дубцы чырвоналозу, або тальніку вельмі гнуткія, з іх лёгка зьдзіраецца кара, і даюць яны, як мы ўжо казалі, надзвычайна белы матар'ял. Гэты гатунак дае і грубыя дубцы, прыдатныя на вялікія кашалі і надта тонкія—для дробных кошыкаў; добры матар'ял з абдзёртых дубцоў, ня дрэнны і з дубцоў у кары. Дзякуючы таму, што яны вельмі моцныя і гнуткія, дубцы чырвоналозу асабліва прыдатны для шчапаньня і вырабу шын, якія ідуць і на пляценьне, і на аббіўку, і на ўсякія зьвязкі ў кашалёх і ў мэблі. Вось чаму чырвоналоз так каштоўны для кашыкараў.

Шмат матар'ялу дае і той тальнік, што дзіка расьце, а яшчэ большы ўраджай дасьць ён, калі яго спэцыяльна разьвесьці. Чырвоналоз расьце і дае найбольш каштоўны матар'ял на ўрадлівым суглінку, хоць ня дрэнна расьце і на добра ўпагноеным пескавым грунце і нават на тарфянішчах. Увесну чырвоналоз аджывае хутчэй, як іншыя гатункі вярбы і дзеля таго ён вельмі баіцца веснавых замаразкаў. Адсюль кожнаму зразумела, што багаты ўраджай тальнік можа даваць толькі там, дзе яго веснавы рост ня будзе затрымлівацца замаразкамі, г. ё. у мясцовасьцях з больш мяккім кліматам. Апрача таго, кашыкар павінен ведаць, што тальнік ня любіць залішняй вільгаці. Ад залішняй вільгаці на дубцох яго знаходзяцца бародаўкі, якія псуюць матар'ял, робяць яго няпрыдатным для работы, бо

тое месца, дзе села барадаўка, робіцца крохкім.

Чырвоналоз мае досыць шмат палепшаных, штучна выведзеных гатункаў, якія ў падыходным клімаце даюць матар'ял куды лепшы, чым звычайны, дзікі чырвоналоз. Напрыклад:

*Чырвоналоз белы*. Гэты гатунак спачатку сапраўды дае добры матар'ял, але хутка, гады праз 3-4, зводзіцца: на ім зьяўляюцца барадаўкі, ён робіцца крохкім і для работы ўжо няпрыдатны.

*Чырвоналоз жоўты* і *чырвоналоз зялёны* (паводле колеру кары). Гэтыя гатункі таксама даюць добры матар'ял і больш трывалыя, як белы чырвоналоз.

Найлепшым гатункам трэба лічыць *чырвоналоз чорны*, або *цынамонавы*, які мае ўсе добрыя якасьці папярэдніх гатункаў і ня мае іх недахватаў, г. ё. менш галініцца і больш дае роўных і доўгіх дубцоў, а самае галоўнае—на ім амаль зусім ня бывае барадавак.

**Лаза** (вярба простая, кашэльная; мал. 72). Гэта найбольш трывалы, а дзеля таго і больш пашыраны гатунак вярбы. Ён лепш за ўсе іншыя гатункі вытрымлівае веснавыя маразы і позныя ранічныя замаразкі; дае вельмі шмат сырога матар'ялу. Лазовыя дубцы вырастаюць доўгія, бяз сучкоў, што вельмі каштоўна для кашыкараў. Лаза неперабарліва на грунт і ня вельмі баіцца вільгаці; расьце і на сухім гляістым грунце, але ўсё-ж такі лепш разьвіваецца і дае больш каштоўны матар'ял на грунце менш цяжкім і больш вільготным. Пескавыя адхонныя берагі рэк і азёр—улюбёнае месца лазы.

На ўрадлівым грунце яна дае дубцы з зялёнай карой, а на бедным—з зеленавата-жоўтай.

Сярод іншага хмызьняку кашэльную вярбу лёгка пазнаць. Лісьці ў яе вельмі доўгія, з вострымі канцамі, з суцэльнымі, загнутымі ў сярэдзіну краямі. Верх ліста яскрава-зялёнага, а ніз—сьветла-шэрага колеру, нібы з пушком; лісьці сядзяць на кароткіх хвастках. Каткі падоўжаныя, надта пушыстыя і разьвіваюцца раней, чым распусьціцца лісьце.

На цяжкім грунце лаза дае залішня грубыя дубцы з шырокай сэрцавінай і кволай драўнінай; іх цяжка абдзіраць ад кары. Апрача таго, простая вярба мае і яшчэ адзін недахват: яе дубцы, як трохі паляжаць, трэскаюцца і даюць удоўжныя шчыліны. Такі матар'ял зусім малакаштоўны ў кашэльнай вытворчасьці. Калі і можна яго скарыстаць, то толькі хіба пры вырабе самых простых кашалёў для пакункаў. Наадварот, на грунтох больш бедных і асабліва, калі густа пасаджана, тая самая лаза дае дубцы тонкія і далікатныя, якія, як матар'ял, нічуць ня горшыя за іншыя палепшаныя гатункі вярбы. Калі абдзёртыя дубцы простай вярбы пашчапаць і пастругаць (чым зводьнім яе ад сэрцавіны і досыць мяккай драўніны), то з іх выйдзе матар'ял досыць каштоўны, прыдатны для больш далікатных работ.

Калі кашыкару прыдзецца самому зьдзіраць або купляць кашэльную вярбу, то ён павінен глядзець, які колер мае кара ў дубцоў. Дубцы апісанай простай вярбы—з зялёнай або з жаўтавата-зялёнай карой, а ёсьць зусім падобны гатунак вярбы, але з шэра-цынамонавай карой. Гэтая вярба нічога ня варта, бо матар'ял з яе зусім дрэнны.

**Вярба чырвонаквет** або **жоўталозьнік.** Вярба чырвонаквет завецца так не за колер кары, а за свае яскрава-чырвоныя кветкі. Гэты гатунак замежны; яго разводзяць, галоўным чынам, у Францыі і Бэльгіі і, як сыры матар'ял, адсылаюць у Ангельшчыну, дзе на яе вялікі попыт, і дзе яна пашырана таксама, як у нас простая вярба. Аб ёй мы кажам таму, што яна дае самы лепшы матар'ял, і яе можна разьвесьці ў сярэдняй паласе нашага Саюзу і асабліва ў нас, на Беларусі.

На падыходным грунце, у зьмерным клімаце, вярба чырвонаквет дае першарадны матар'ял. Дубцы яе—надта тонкія і надта моцныя—прыдатны для самага тонкага пляценьня з суцэльна-круглага матар'ялу. Для шчапаньня гэты дубец вельмі затонкі, а калі і шчапаюць яго, то толькі хіба для самых далікатных работ. У работу ідуць толькі абдзёртыя дубцы, з карой-жа яны няпрыдатны таму, што, папершае, для простых кашоў, якія робяцца з неабдзёртага дубца, гэтыя дубцы занадта тонкія, а падругое, кара на дубцох хутка чарнее, на ёй зьяўляюцца чорныя плямы, што надае вырабам з неабдзёртага дубца брыдкі выгляд. Дубцы гэтай вярбы абдзіраць досыць цяжка, але затое, як іх абдзяруць, яны набываюць колер скуры, які доўга трымаецца і надае вырабам прыгожы скураны выгляд. Апрача таго, за дубцы вярбы чырвонаквету добра бярэцца і доўга трымаецца ўсякі колер штучнай ахварбоўкі, добра прыстае лякіроўка і, да таго-ж, яны добра паліруюцца. Вось чаму гэты гатунак вярбы вельмі каштоўны пры вырабе каляровага кашэльнага тавару. Трэба намагацца разь-

весьці гэту вярбу і ў нашым Саюзе, асабліва ў нас, на Беларусі. Лепш за ўсё расьце яна і дае найвялікшы ўраджай на глыбокім моцным супяску, які добра ўпагноены гноем або рэчным глеем. А такія месцы па берагох рэк і азёр у нас знойдуцца.

**Уральская вярба.** Дубцы уральскай вярбы, з сьветла-жоўтай карой і чырвонымі вочкамі, лёгка абдзіраюцца і даюць тонкі і роўны матар'ял, які асабліва прыдатны для шчапаньня, бо дубцы на даўжыні 15-16 цаляй маюць зусім аднолькавую таўшчыню. Гэта вельмі каштоўны матар'ял у кашэльнай вытворчасьці, што заўважылі заграніцай і з асаблівым посьпехам разводзяць яе ў старонцы Сылезіі (Нямеччына). Трэба й беларускім саматужнікам-кашыкарам зьвярнуць на яе сваю ўвагу. Яна добра расьце на супяску, які добра ўпагноены гноем або рэчным глеем і мае досыць грунтавой вільгаці. У першы год дубцы гэтае вярбы ўверх не растуць, а расьсьцілаюцца па зямлі; на другі год пачынаюць расьці ўверх, а з трэцяга-чацьвертага году вярба пачынае даваць поўны ўраджай дубцоў.

**Чырвоная вярба** (альбо, як яе завуць, касьпійская, пескавая вярба). Чырвоная ці касьпійская вярба не дае шмат дубцоў, бо расьце ня кустом, а дрэвам. Але ўсё-ж такі яе нельга ня ўспомніць таму, што пры добрых умовах для свайго разьвіцьця яна дасьць кашыкару вельмі каштоўны матар'ял. Чырвоная вярба ў першы год, як і ўсе іншыя гатункі вярбы, дае дрэнны ўраджай і нямоцныя дубцы. Але гэтыя леташнія дубцы ўжо прыдатны для работы: абдзёртыя ад кары яны добра прымаюць лякіроўку, паліроўку, бранзоўку, доўга

трымаюць пазалоту, а тоўстыя з іх асабліва каштоўны пры вырабе мастацкай плеценай мэблі. На другі год дубцы робяцца доўгімі, тонкімі і зусім бяз сукоў, з вельмі прыгожай карой цёмна-чырвонага колеру, якi даходзіць да чорна-фіялетавага. Вырабы з неабдзёртых дубцоў гэтай вярбы арыгінальны і прыгожы.

Чырвоная вярба добра расьце на супяску; нават наносны пясок, калі ён ня надта ўжо сухі, таксама добры грунт для яе. Сваймі тонкімі і доўгімі карэньнямі яна глыбака і далёка ўва ўсе бакі разыходзіцца ў пяску; там яны знаходзяць сабе досыць пажывы і, разам з тым, нібы зьвязваюць пясок і тым змацоўваюць яго.

Ува Ўсходняй Прусіі, у Сылезіі (Нямеччына) гэтую вярбу і разводзяць на сыпкіх пяскох, па берагох рэк, азёр і мора і маюць з гэтага разам дзьве выгады. Першая—вярба дае шмат добрага матар'ялу для кашыкараў, другая—яна змацоўвае сыпкія пяскі, чым бароніць берагі ад размываньня вадой, а рэкі, азёры і ўзьбярэжжа мора—ад засыпаньня наноснымі пяскамі і абмялчэньня. Паводле гэтага добрага прыкладу павінны пачаць разводзіць чырвоную вярбу і мы—беларусы.

**Брэднік** (брадзіна, мал. 73). Гэтая вярба расьце і кустом, але часьцей—дрэвам і дасягае 4½—6 сажняў вышыні і ад 8 да 12 цаляй таўшчыні. Дубцоў брэднік не дае, але затое на другі, на трэці год свайго росту дае іншы каштоўны для кашыкара матар'ял—даўгія гнуткія палкі, якія патрэбны для асновы ўсякіх кашалёў і асабліва для вырабу плеценай мэблі. Дубцы брэдніку, адыходзячы ад пня,



Мал. 73.

звычайна разгаліньваюцца на тры часткі. Але ўжо на другі год дзьве ўскрайнія галіны адвальваюцца і застаецца адна сярэдняя, якая і вырастае ў доўгі грубы дубец, зусім бяз сукоў,—вось гэта й ёсьць тая каштоўная для кашыкара палка. Брэднік любіць добры вільготны грунт і дае багатыя ўраджаі на берагох гляістых рэк і ручаёў. Ён ня вымагае асаблівага догляду і дае добры матар'ял нават і дзікім. Кара брэдніку ідзе на гарбоўку юхты, гарбоўку і ахварбоўку скуры, з якой робяць пальчаткі.

**Вярба дзікая і гадаваная (культурная).** Вярба розных гатункаў, як адзначана вышэй, расьце і дзікая і разводзіцца штучна. Дзікая вярба расьце дзе папала: на ўсялякіх вільготных мясцох, на пескавых мялізнах, на берагох рэк, азёр і балот, укрываючы часамі сабою цэлыя дзесяткі дзесяцін, часамі-ж расьце і асобнымі гнёздамі ў перамешку з розным іншым хмызьняком. Там, дзе гэткай вярбы шмат, звычайна і разьвіваецца кашэльны промысел або здабываньне і апрацоўка вярбы і гуртовы продаж яе. Дзікіх вярбовых зарасьнікаў асабліва шмат

у Самарскай і Саратаўскай губэрнях і па берагох і астраўкох Волгі, у Кіеўскай губэрні—па Дняпры, у Наўгародзкай—па Волхаве, у Разанскай і часткай у Гомельскай—па берагох мясцовых рэк і рэчак. Шмат вярбы і ў нас, на Беларусі, толькі мала пакуль на яе зьвяртаюць увагі.

Дзікая вярба вельмі танная, гэта праўда, але-ж затое ня можна яе і раўнаваць да гадаванай. Дубцы і палкі дзікай вярбы вельмі часта кароткія, сукаватыя, крывыя, часамі-ж і randaдаўчатыя, а дзеля таго крохкія і мала прыдатныя для работы. Праўда, там, дзе дзікую вярбу ўсё-ж хоць ашчаджаюць: не ламаюць і ня псуюць бязглуздна, не сякуць і ня рэжуць без пары, а наадварот—своячасова высякаюць і чысьцяць застарэлыя і папсаваныя пні,—там і дзікая вярба дае не благі матар'ял.

Але як-бы там ні было, усё-ж такі культурная (гадаваная),—пасаджаная на адпаведнай і да таго-ж упагноенай і ўробленай зямлі—вярба дасьць і лепшы матар'ял, і большы ўраджай. Дубцы і палкі ўсіх гатункаў культурнай вярбы заўсёды больш простыя, тонкія, доўгія і моцныя, чым у дзікай. Дзеля таго, хто хоча мець каштоўны матар'ял для кашэльнай вытворчасьці, той не шкадуе ні працы, ні грошай і разводзіць цэлыя плянтацыі таго ці іншага гатунку культурнай вярбы: ён ведае, што яна стакроць аплаціць усю яго працу й выдаткі.

## ПЛЯНТАЦЫІ КУЛЬТУРНАЙ ВЯРБЫ.

**Выбар месца пад плянтацыю.** Дзікая вярба расьце лепш за ўсё на рэчных нізінах або па бе-

рагох саджалак і равоў, г. зн. там, дзе грунт пухкі і досыць вільготны. Гэта і трэба памятаць пры выбары месца пад плянтацыю вярбы. Значыцца, вярбу трэба разводзіць па рэчных нізінах, па нізкіх лугох і пескавых мялізнах, якія ўвесну залівае паводка, а таксама—па берагох саджалак і вільготных равоў. Зусім ня прыдатны для вярбы пескавыя грунты на высокіх мясцох з жарствяным падглеб'ем. Таксама ня прыдатны і балотныя мясьціны, дзе грунтавая вада стаіць ня ніжэй 6 вяршкоў ($1^1/_4$ фут). Такія месцы трэба раней добра абсушыць.

Тарфавішчы таксама ня прыдатны, калі пад імі няма блізка пяску, які можна-б было пры ўрабляньні падняць наверх. Лепш за ўсё прыдатны для вярбы сярэдні пескавы перагнойны грунт або грунт суглініста-пескавы. Калі на такім грунце вярба прымецца, то будучыя сухмені ёй ужо ня страшны.

**Урабляньне зямлі.** Урабляньне зямлі пад плянтацыю вярбы мае тры мэты: 1) зрабіць зямлю пухкай; 2) перапластаваць вучастак, калі гэта трэба, г. зн. глебу закапаць наніз, а частку падглеб'я падняць наверх; 3) зьнішчыць на вучастку ўсякую нягодную траву, якая глушыць вярбу і перашкаджае яе росту.

Калі вучастак, які выбраны пад вярбу, быў да таго пад ральлёй, то на ім травы меней, і яго можна рыхтаваць пад вярбу. Калі-ж пад вярбу вызначана пустка або яшчэ горш—цаліна, то, перш чым садзіць тут вярбу, вучастак трэба гады са два, а то й тры араць пад гарод ці якую-небудзь збажыну, каб зьвесьці траву. Урабляць зямлю пад плянтацыю вярбы трэба старанна.

Лепшая ўработка—гэта *перакопка на перавал на глыбіню,* гледзячы які грунт, ад 7 да 18 вяршкоў (12—30 цаляй). Калі падглеб'е—пясок, то зямлю трэба перакопваць глыбей, каб пясок падняць наверх; калі падглеб'е—гліна, перакопку трэба рабіць толькі да гліны. Ўрабляньне зямлі на перавал робіцца так (мал. 74):


Мал. 74.

З дапамогай шнура і калкоў увесь вучастак дзеляць на палосы ў 1 аршын шырынёй кожная. Потым адзін з работніаў у першай паласе, прыладам, ад *аі*, пачынае капаць роў глыбінёю на адну рыдлёўку, здымаючы пласт зямлі *А*. Калі гэты работнік ад канца рову *аі* адойдзе досыць далёка,

другі работнік сьледам за ім пачынае капаць тойжа самы роў глыбінёю яшчэ на адну рыдлёўку. Так капаюць роў да патрэбнай глыбіні, а зямлю выкідаюць на адзін бок *аб*. Другія работнікі гэту зямлю пераносяць ці перавозяць на другі канец вучастку і ссыпаюць за апошняй паласой у вал *ВГ*. Як першы роў будзе скончаны, такім-жа парадкам капаюць другі, і зямлёй, што вынімаюць, засыпаюць першы роў. Кожнаму зразумела, што зямля з другога рову, як пападзе ў першы, будзе *пераваленa*—перавернута так, што верх яе будзе падысподам, а спод—наверсе. Гэтак робяць перавал усяго вучастку. Апошні роў *жз* засыпаюць зямлёй з валу *ВГ* (якая перанесена з *аб*). Такая ўработка цяжкая і каштуе досыць дорага, але затое яна зьнішчае ўсю нягодную траву і глыбака ўспульхняе зямлю. Калі плянтацыя вялікая, а работнікаў мала і сродкаў не хапае, тады ўрабляюць зямлю больш танным спосабам, а іменна: або праворваюць глыбокія барозны плугам, а потым паглыбляюць іх на адну рыдлёўку; або праходзяць барозны двума плугамі, адзін за другім; або, урэшце, робяць барозны з глебапаглыбільнікам. Так можна ўспульхніць грунт на глыбіню 14—16 вяршкоў (28 цаляй). Гэта ўработка таксама добрая, але пералу яна не заступіць. Урабляць зямлю пад вярбу абавязкова з восені, каб яна добра прамерзла.

## ЧАС САДЖАНЬНЯ І ПАДРЫХТОУКА ЗРАЗКОЎ (ЧАРАНКОЎ).

Можна разводзіць вярбу насеньнем; яно хутка ўсходзіць, але затое і хутка траціць гэту здольнасьць. Насеньнем рэдка хто разводзіць вярбу; значна лягчэй разводзіць яе зразкамі. Саджаць вярбу можна ўвесну і ўвосень. Калі зьбіраюцца саджаць, тады й зразкі нарыхтоўваюць. Практыка паказвае, што садзіць увесну лепш, чым увосень, бо ўвосень чаранкі прымаюцца хутчэй.

Для чаранкоў выбіраюць леташнія дубцы, самыя доўгія, роўныя, грубыя, здаровыя і зусім сьвежыя. Крывых, слабых, прывяўшых дубцоў браць ні ў якім разе ня можна. Дубцы, якія выбраны, рэжуць на з р а з к і—кавалкі даўжынёй у 6—8 вяршкоў, а калі баяцца, што зразкі пассыхаюць улетку, то рэжуць даўжынёй у 10 вяршкоў. Рэжуць або вострым садоўніцкім нажом, або звычайнымі садоўніцкімі нажніцамі, або, урэшце, асаблівымі садоўніцкімі нажніцамі з доўгай дзеравянай ручкай. Калі рэжуць апошнім спосабам, то робяць дзеравяную лаўку вышынёй паводле росту работніка, а шырынёй паводлуг даўжыні зразкоў. Ззаду да лаўкі прыбіваюць дошку, у якую ўпіраюць дубцы, як рэжуць іх; з левага боку ўбіваюць два дзеравяных калкі, якія затрымліваюць адрэзаныя дубцы і не даюць ім скідацца далоў; справа прымацоўваюць да лаўкі ніжнюю частку нажніц (мал. 75). З такой прыладай дубцы можна рэзаць невялічкімі пукамі, і работа йдзе хутка. Але ні ў якім разе нельга сячы зразкі сякерай, нават самай вострай,

бо, першае, ад гэтага канцы зразкоў пашчапаюцца, з пабітага-ж месца карэньчык ня выйдзе, а другое—калі сячы сякерай, то зразкі будуць разьлятацца на ўсе бакі і іх прыдзецца зьбіраць і складаць камлямі ў адзін бок, а ўсё гэта будзе толькі



Мал. 75.

марудзіць і затрымліваць работу. Зразкоў-жа трэба шмат—ад 43.200 да 76.800 на дзесяціну.

Лепш за ўсё прымаюцца зразкі толькі што зрэзаныя, але ня блага і праз некалькі тыдняў і нават месяцаў, калі іх добра захаваць. Захоўваць такія зразкі трэба ў вадзе; дзеля гэтага іх затапляюць у ваду, а каб яны ня ўсплылі, іх накрываюць дошкай і зьверху прыціскаюць каменем. Трымаць зразкі трэба ня ў цёплым месцы, бо там яны хутка прарастуць і пусьцяць карэньчыкі, а гэта дрэнна: калі іх будуць саджаць у зямлю, карэньчыкі паламаюцца, выпусьціць новыя ў зразкоў можа не хапіць сілы, і яны пасохнуць.

**Саджаньне зразкоў**. Калі вучастак уроблены і зразкі нарыхтованы, пачынаюць іх саджаць. Саджаюць у радкі гэтак: вяроўкай ці як інш назначаюць на вучастку лініі-радкі ўдоўж і ўпоперак,—выходзіць нібы сетка, на ёй і саджаюць у радкі. Калі грунт на вучастку дужы і дубцы хочуць мець тонкія, то зразкі саджаюць гусьцей: паміж радкоў—12, а паміж зразкамі—6 вяршкоў; тады на дзесяціне будзе 76.800 зразкоў. Калі хочуць мець больш грубыя дубцы і грунт да таго досыць бедны, то саджаюць радзей: 1 аршын паміж радкамі і 1/2 аршына паміж зразкамі; гэта складае на дзесяціну 43.200 зразкоў. Калі грунт на вучастку мяккі, пухкі, то работнік, а часьцей за ўсё работніца, ідзе ўздоўж радка і рукой утыкае зразкі ў зямлю. Калі-ж зямля цьвёрдая, і чаранок у зямлю ня лезе, тады дзеравяным ці спэцыяльным жалезным калком (мал. 76) робяць перш у зямлі ямкі, а потым у іх утыкаюць зразкі. Але гэты спосаб трэба ўжываць

толькі пасьля добрага дажджу, калі зямля добра намокне, разьмякне, бо йначай зразок можа заплысьці, не засыплецца зямлёй, а застанецца ў пустой ямцы і засохне.

Зразкі трэба ўтыкаць ні ў якім разе ня крыва—нахільна, а проста—старчком. Калі зразок пастаўлены проста, то ён пусьціць карэньчыкі з усіх бакоў, а калі-ж ён уторкнуты крыва, дык карэньчыкі будуць выходзіць толькі з аднаго існодняга боку.


Мал. 76.

Каб не параніць руку, якой утыкаюць зразкі ў зямлю, адзяюць скураную пальчатку, рукавіцу або спэцыяльны рамень (мал. 77). Рамень шырокай часткай адзяюць на далонь і зашпільваюць з тыльнага боку. Шкумат скуры на рамні мае форму кружка ў 2½ цалі ў папярочніку. Зразкі лепш за ўсё зусім уціскаць у зямлю і нават засыпаць іх на вяршок зямлёй. Гэта можна рабіць тоўстай калодачкай накшталт трамбоўкі (м. 78). Але ўціскаючы зраз-


Мал. 77

кі ў зямлю, трэба глядзець, каб не пабіць і не папсаваць іх, а то будзе болей шкоды, чым карысьці. Калі хочуць засадзіць вярбой вучастак, які зарос травой, і траву гэту зьнішчыць нельга тады зразкі рэжуць даўжэй—вяршкоў 10-ці і ўтыкаюць у зямлю так, каб вяршкі тры былі над зямлёй.

**Адкуль узяць зразкі для саджаньня.** Калі ўжо разводзіць вярбу, дык трэба разводзіць завадзкую, якая дасьць матар'ял найбольш каштоўны, а для гэтага і зразкі павінны быць ад завадзкой вярбы. Але дзе-ж узяць такую вярбу? і як-бы тут не падашукацца — не набыць якую-небудзь дрэнь. Трэба даведацца ў лясных і зямельных управах, ці няма дзе паблізу гадоўніку (пітомніку), дзе спэцыяльна на развод гадуюць усякія гатункі рознага хмызьняку,—там бываюць і ўзорныя плянтацыі вярбы. Можна паказаць на старыя гадоўнікі: 1) Масква, Сельска-Гаспадарчы Інстытут (былая Пятроўская сельска-гаспадарчая акадэмія), 2) гадоўнік пры Кучараўскай сельска-гаспадарчай школе ў Суджанскім павеце Курскай губэрні.



Мал. 78.

Калі даведаецеся, дзе яшчэ разводзяць добрую

вярбу на продаж, можна купіць зразкі і там. Дзе кашэльны промысел будзе разьвівацца, там нямінуча зьявіцца попыт на добрую вярбу, там бяссумненна саматужніку-кашыкару дапаможа і ўлада закладам узорных гадоўнікаў лепшых гатункаў культурнай вярбы

**Дагляд за плянтацыяй вярбы.** Вярба дасьць большы ўраджай і лепшы матар'ял, калі нішто ня будзе перашкаджаць яе росту. Дагляд за вярбой і ёсьць ахова яе ад усяго, што ёй шкодзіць і не дае расьці. Што-ж шкодзіць вярбе? Перш за ўсё—усякая трава і асабліва пырнік і павой (вьюнок). Усякая трава, якая расьце вакол вярбы, глушыць яе, зьнясіляе наўкол яе глебу; карэньні яе аплятаюць маладыя карэньні вярбы, душаць іх і тым затрымліваюць рост. Пырнік асабліва шкодны тым, што хутка расьце, цалком заплятае сваімі карэньнямі ўвесь прастор, які ён займае. Павой таксама хутка расьце, падымаецца па галінах уверх і так моцна абкручваецца каля іх, што нават пакідае на драўніне пасы—сьлед па сабе. Такія дубцы робяцца крохкімі і ня прыдатнымі да работы.

Апрача травы, ворагамі вярбы зьяўляюцца розныя мошкі. Яны шкодзяць ёй тым, што робяць уколы на маладых яе парастках, з-за чаго на іх знаходзяцца асаблівыя нарасьці, ад якіх дубцы псуюцца, робяцца крохкімі, ня прыдатнымі да работы. Апрача самых мошак, шкодзіць яшчэ і іх вусень, якая аб'ядае лісьцікі на маладых парастках або псуе верхавінкі апошніх, густа абблутваючы іх павуцецьнем, з-за чаго парастак перастае расьці ўверх, а пачынае галініцца ў бакі. Як-жа

змагацца з усімі гэтымі шкоднікамі? Усімі мерамі, усялякімі спосабамі трэба іх зьніштажаць. Траву можна зьніштажаць двума спосабамі: 1) раз-два ў год зямлю паміж радкоў на плянтацыі трэба чым глыбей матыкаваць, перакопваць, і карэньні травы старанна выбіраць і выкідаць; 2) не даваць траве абсемяняцца і дзеля таго сваячасова яе выпалываць. Калі-ж чаму-небудзь трава асіліць і няма ніякай магчымасьці з ёю зладзіць, то лепш увесь вучастак выкарчаваць і гады са два араць пад бульбу ці пад якую другую збажыну, пакуль уся трава ня зьніштожыцца, і тады зноў можна саджаць вярбу.

Заўважана, што мошкі больш за ўсё нападаюць на лазу, ці кашэльную вярбу, і менш за ўсё на чырвоналоз. Гэта павінен памятаць кожны, хто надумае разводзіць вярбу. Апрача таго, трэба мець на ўвазе, што вярбу псуюць, галоўным чынам, не дарослыя мошкі, а іх вусень. Значыцца, змагацца з мошкамі гэта значыць, перш за ўсё, змагацца з іх вусеньню і зьніштажаць яе.

Як-жа змагацца з ёю, як яе зьніштажаць?

Самы просты, самы танны і да таго-ж самы пэўны спосаб барацьбы з ёю—гэта зьбіраньне вусені і зьніштажэньне гнёздаў яе, абблытаных павуценьнем. Тут нават дзеці могуць з посьпехам дапамагаць. Але самым лепшым і старанным памоцнікам чалавека ў гэтай справе зьяўляюцца ўсялякія птушкі, асабліва вераб'і й шпакі. Вось чаму на плянтацыі вярбы ці каля яе карысна ўладжваць шпакоўніцы і ўзімку прыкармліваць птушак.

Дзеля таго, што розныя мошкі нападаюць толькі на тыя гатункі вярбы, якія ім падабаюцца, некато-

рыя раяць саджаць вярбу не падрад адным гатункам, а ўперамешку рознымі гатункамі. Гэта можа дапамагчы справе. Але тут ёсьць і свае недахопы: гатунак, які расьце хутчэй, можа заглушыць тыя гатункі, што растуць цішэй, гэта папершае, а падругое—пры зьбіраньні дубцоў цяжка іх сартаваць паводле гатункаў вярбы. Другія раяць трошкі іншы спосаб, іменна: закладваць так званыя *ахоўныя палосы* ў такім парадку: на вучастку на працягу 40—50 сажняў садзяць адзін які-небудзь гатунак, потым радкоў 5—10 іншага гатунку, потым зноў першы гатунак і г. д. да канца вучастку. Гэтакія ахоўныя палосы перашкаджаюць мошкам хутка разводзіцца па ўсім вучастку.

Больш пэўным спосабам барацьбы з мошкамі трэба лічыць апырскваньне лісьця вярбы так званай „швэйфурцкай зеленьню". Яе можна набыць у аптэкарскіх магазынах.

Апырскваць трэба ня часта, у залежнасьці ад вынікаў папярэдняга апырскваньня.

Раяць рабіць гэткую рашчыну: 1 фунт зелені распушчаць у 80 вёдрах вады; робяць рашчыну і гусьцей, але ні ў якім разе ня гусьцей, як 1 фунт на 48 вёдзер, а то йначай жыжка будзе псаваць лісьце расьліны. Калі робяць рашчыну, то „зелень" не адразу сыплюць у ваду, а перш распушчаюць у невялічкай пасудзіне і ўжо гэтую густую рашчыну разводзяць вадой, як трэба.

Атрыманую жыжку трэба часта боўтаць, каб „зелень" не асядала на дно пасудзіны.

Апырскваць можна звычайным венікам, але лепш за ўсё, зразумела, пырскаўкай, якой садоўнікі апырскваюць яблыні.

Ад зямлянай блыхі ўжываецца тая-ж самая „зелень“ з гашанай ваннай (18 лотаў „швэйфурцкай зелені“ і $15^1/_2$ лотаў гашанай ванны на 10 вёдзер вады). Добра памагае ад блох і звычайны попел, калі ім пасьля дажджу пасыпаць лісьці хмызьняку.

Тут мы гаворым пра плянтацыю вярбы, пра штучныя яе насадкі, як іх захаваць і прымусіць даць большы ўраджай і лепшы матар'ял. Але-ж плянтацый у нас пакуль што вельмі мала—адкульжа кашыкары матар'ял сабе дастаюць?—З дзікіх зарасьнікаў вярбы. Гэтыя дзікія зарасьнікі даюць і могуць даваць зусім прыдатны матар'ял для кашэльнага промыслу. Калі-ж іх ашчаджаць ад бязглуздага псаваньня: не ламаць, не травіць скацінай, выцярэбліваць старыя пні, усімі спосабамі не даваць траве абсемяняцца й разрастацца і, урэшце, своечасова і правілова зразаць дубцы,—то й дзікія зарасьнікі будуць дарма даваць колькі хочаш вельмі добрага кашэльнага матар'ялу.

**Збор і нарыхтоўка вярбовых дубцоў.** Перш за ўсё паўстае спрэчнае пытаньне—калі мэтазгодней зразаць дубцы: у першы ці ў другі год пасьля закладзін плянтацыі? Адны людзі, якія добра знаюцца на гэтай справе, кажуць, што можна зразаць дубцы і ў першы год пасьля закладзін плянтацыі—гэта вярбе зусім не пашкодзіць, а наадварот, дапаможа: на лета яна дасьць шмат маладых парасткаў, а дзеля таго ўраджай будзе большы, дубцы будуць больш тонкія і доўгія,—значыцца, матар'ял будзе больш каштоўным для кашыкара; там-жа, дзе дубцы рэзалі ня ў першы, а ў другі год пасьля закладзін плянтацыі, ураджай быў меншы

прырост быў толькі ў даўжыню і таўшчыню, і матар'ял вышаў больш просты, не на ўсякую работу прыдатны... Другія знаўцы, наўпроці, кажуць, што ў першы год пасьля саджаньня вярбы ня сьлед рэзаць дубцоў затым, што маладыя карэньні вярбы яшчэ ня зусім разьвіліся і ўмацнелі, і калі безпары зрэзаць маладыя парасткі, то гэта дрэнна адаб'ецца на плянтацыі.

На закладзіны плянтацыі траціцца шмат і сілы і сродкаў. У вагуле плянтацыя служыць і дае ўраджай 15—20 год. Зразумела, што ахаваць плянтацыю ад перадчаснай застарэласьці і прымусіць гады са два лішніх даваць ураджаі добрых дубцоў, мае для гаспадара вялікае значэньне. Хто будзе займацца разьвядзеньнем вярбы, хай усё сказанае мае на ўвазе і праверыць на практыцы. Тут да рэчы будзе сказаць, што даўгавечнасьць плянтацыі можна падтрымаць ня толькі сваячасовай і правіловай зрэзкай дубцоў, але, галоўным чынам, сваячасовым добрым упагноеньнем яе як гноем, так і штучнымі ўгнаеньнямі.

Цяпер застаецца разьвязаць другое пытаньне: калі лепш рэзаць дубцы—увесну, улетку, увосень ці ўзімку. Усе мы ведаем, што ўвесну і ўлетку (у красавіку, траўні, чэрвені і часткай у ліпні) расьліны аджываюць; з цёплай вільготнай зямлі карані прагавіта ссуць патрэбныя сокі, якія па заболані йдуць уверх да лісьця, дзе й перапрацоўваюцца. Увосень (у жніўні, верасьні, кастрычніку і часткай у лістападзе) сок па пню ідзе назад і гадуе ўсю расьліну. Хто ўсё гэта ведае, той зразумее, што рэзаць дубцы ўвесну і ўлетку шкодна для расьлін: з месца зрэзаў шмат соку выцеча і

дарэмна прападзе; а ад гэтага расьліна зьнясіліцца, можа захварэць і нават загінуць. Калі рэзаць дубцы рана ўвосень, то перапрацаваны ў лісьці сок ня дойдзе да тых частак расьліны, што застануцца—да пня і карэньняў; яны страцяць пажыву і разьвіцьцё іх застановіцца. Позна ўвосень—у лістападзе, узімку (сьнежань, студзень, люты) і рана ўвесну—у сакавіку, сок па расьліне ня йдзе, гадаваньне расьлін прыпыняецца, яны заміраюць. Зрэзка дубцоў і нават самога пня ў гэты час не пашкодзіць расьліне, наадварот, дужыя карэньні ўвесну, замест зрэзанага, выганяць шмат новых маладых парасткаў.

Адсюль мы можам зрабіць такі вывад: дубцы належыць рэзаць або позна ўвосень і зімою, або рана ўвесну; позьняй веснавой і летняй рэзкі, якая зьнясіляе зарасьнікі, трэба ўнікаць або лепш зусім не рабіць. Да таго-ж трэба мець на ўвазе, што з дубцоў, якія нарыхтованы ўвесну, кара лёгка сходзіць, а дубцы асеньняй і летняй рэзкі дрэнна абдзіраюцца. Значыцца, калі патрэбны неабдзіраныя дубцы на „зялёны“ або „шэры“ тавар, то іх лепш рэзаць узімку або ўвосень, прыкладам, ад лістапада да лютага; калі-ж патрэбны матар‘ял абдзёрты на „белы“ тавар, то дубцы лепш рэзаць у канцы лютага ці ў пачатку сакавіка. Пры нарыхтаваньні дубцоў важны ня толькі час, але й самы спосаб іх нарыхтоўкі. Калі будуць ламаць дубцы, нядбала іх сячы і шчапаць тыя, што застаюцца, часткі сьцяблоў і пнёў, то гэтым будуць псаваць і звадзіць вярбняк. Самае лепшае—зразаць дубцы садоўніцкімі нажніцамі (мал. 14), садоўніцкім нажом (мал. 15)

або спэцыяльнымі нажамі—плоскімі (мал. 79) і накшталт сярпа (мал. 80). Зразаць дубцы належыць ня ўпоперак, а наўскасяк, цалі за паўтары ад галоўнага пня ці галіны. Калі зрэзаныя дубцы ня будуць абдзіраць, то іх зараз-жа сартуюць паводле даўжыні і таўшчыні ў невялікія пукі і хаваюць у цёмным прахалодным і сухім месцы.



Мал. 79.

А калі дубцы будуць абдзіраць, то сартуюць іх потым, пасьля абдзіркі. Трэба заўважыць, што



Мал. 80.

на нашым расійскім рынку, асабліва за апошні час, вярбовы дубец часта сталі прадаваць несартованы. Пахваліць за гэта нельга, бо несартованы дубец траціць сваю каштоўнасьць.

Абдзіраць кару з дубцоў можна вельмі проста: саскрабаць нажом. Але гэты спосаб ужываюць рэдка, хіба толькі ў самых апошніх выпадках, бо ён займае шмат часу і дубец выходзіць ня надта чысты, а дзеля таго і малакаштоўны. Куды лепш і скарэй абдзіраць кару з дубцоў шчамілкай, ды яшчэ тады, як кара лёгка адстае ад сьцябла. Адстае-ж яна ўвесну (у красавіку, у траўні), калі настае цяпло і ўсе расьліны аджываюць; аджываюць тады і зрэзаныя дубцы

вярбы; на іх напухаюць почкі, нават распускаюцца лісьці, кара лёгка злазіць са сьцябла. Гэта самы лепшы час для абдзіркі дубцоў. Каб кара яшчэ лепш здымалася, ажыўленьне соку ў дубцох прысьпяшаюць і ўзмацняюць намочваньнем іх. Дубцы, якія прызначаны для намочваньня й абдзіркі, перш сартуюць паводле даўжыні і таўшчыні і вяжуць у пукі. Пукі павінны быць ня тоўстымі—у камлі ня больш 14 вяршкоў у вакружыне; не павінны быць і туга зьвязаны. Сартуюць затым, што дубцы, аднолькавыя па велічыні, адмакаюць і аджываюць больш дружна чым няроўныя. Сартаваць лёгка пры дапамозе скрынкі і нахіленай дошкі (мал. 81). Скрынку робяць такой велічыні: аршын удоўжкі, вяршкоў 10-12




Мал. 81.

ушыркі і вяршкі 4 ўвышкі. Даўжыня дошкі—2 аршыны. Шырыня такая самая, як унутраная даўжыня

скрынкі. Адзін канец дошкі ўстаўляецца ў скрынку. а на другім на завесах прыстроены падстаўкі-ножкі, з дапамогай якіх дошку можна ставіць і больш адхонна і стромка. На дошцы папрыбіваны плянкі якія вызначаюць даўжыню дубцоў. Мочаць дубцы рознымі спосабамі. Калі дубцоў ня шмат, бяруць колькі трэба кадушак, ражак, ваннаў або другіх пасудзін, наліваюць іх вадой вяршкі на 4 і стаўляюць на сонечным месцы; распускаюць троха завязкі на пуках дубцоў і стаўляюць іх у ваду. Як толькі дубцы пачнуць аджываць—іх абдзіраюць.

Калі-ж дубцоў шмат, іх такім самым парадкам стаўляюць у рэчку, саджалку, возера ці ў асобныя копанкі з праточнай вадой. Для гэтага выбіраюць такое месца, каб глыбіня была ня менш, як 4 і ня больш, як 6 вяршкоў і каб дно было пескавое. Убіваюць тут 4 калы з такім рахункам, каб між іх зьмясьціўся ўвесь, прызначаны для намачваньня дубец. Калы абвязваюць вяроўкай або забіваюць тонкімі жэрдкамі, да якіх можна-б было прыставіць і нават прывязаць пукі дубцоў. У гэтым абгарожаным месцы і мочаць дубцы; пукі пры гэтым стаўляюць так, каб дробны дубец, які намакае і аджывае хутчэй, быў бліжэй і яго можна-б было дастаць першым не чапаючы другіх пукоў.

Калі дно такога мачыла пескавое, дык камлі адмочаных дубцоў ня трацяць свайго бліскучага белага колеру. Калі ж дно не пескавое, а тарфяное, гляістае і забруджанае, дык камлі адмокшых дубцоў набываюць брыдкі брудны колер, з-за чаго і ўвесь матар'ял траціць сваю каштоўнасьць. Каб гэтага ня здарылася, а таксама тады, калі няглыбокіх

мясьціп паблізку ніздзе няма і ўсюды вада глыбокая, робяць гэтак: з дошак або тонкіх жэрдак робяць рашотку, затапляюць яе ў ваду і на глыбіні 4-6 вяршкоў прымацоўваюць да калоў. На гэтую рашотку, як на падлогу, паранейшаму стаўляюць пукі дубцоў.

Гэтак падрыхтоўваюць дубцы да абдзіркі ўвесну, калі да гэтага часу ў белым матар'яле няма патрэбы. Але бывае так, што белых дубцоў не хапае ўжо ў сьнежні, у студзені, калі гэткім спосабам на марозе аджывіць расьліны ня можна Тады робяць інакш. Бяруць ванну з тоўстай бляхі або моцны дзеравяны цэбар (чан) з вечкам (і ванну і цэбар такой велічыні, каб можна было паставіць або палажыць у іх некалькі пукоў неабдзёртага дубца). У ванну ці цэбар умацоўваюць два канцы сагнутай у дугу жалезнай трубы ў $2^1/_2$—3 цалі ў папярочніку. Дугу трубы прапушчаюць праз невялікую печку (мал. 82). Лепш за ўсё гэта рабіць у лазьні. У ванну ці цэбар кладуць, распусьціўшы крыху зьвязкі, пучкі дубцоў і гатуюць іх. Калі кара пачне лёгка адставаць ад сьцябла—дубцы абдзіраюць. Гатаваныя дубцы пры абдзіраньні набываюць чырванаваты колер. Але гэта справу ня псуе. Калі дубцы прызначаны пад ахварбоўку, то яны ўсялякую хварбу, а асабліва цынамонавую і чорную, прымаюць лепш, чым негатаваныя дубцы. Калі-ж дубцы ня будуць хварбаваць, дык, каб вярнуць ім зноў белы колер, іх падкурваюць серкай.

Абдзірка дубцоў—такая простая работа, што яе з посьпехам выконваюць ня толькі жанчыны, але й дзеці. Пры абдзірцы патрэбна ня сіла, а

спрытнасьць і жвавасьць у руках, і дзеці ў гэтым стасунку перавышаюць дарослых і зьяўляюцца леп-



Мал. 82.

шымі работнікамі. Абдзіраць дубцы можна нажом, але, як адзначана вышэй, лепш і хутчэй гэта рабіць асаблівымі шчамілкамі. Шчамілкі робяць розныя: калі абдзірка адбываецца ня ў хаце, дык самай простай шчамілкай (мал. 83) зьяўляецца звычайны калок з якога-небудзь сырога дрэва. Калок убіваюць у зямлю і зьверху сякерай расшчапляюць, але не да канца, а толькі каб зрабілася шчыліна, куды будуць класьці дубцы, вось і уся шчамілка. Робяць шчамілкі і больш складаныя. Шчамілкі, паказаныя на мал. 84 і 85 робяць з тоўстага дроту; першая ўбіваецца у дзеравяны брус або проста ў палена, другая ручная шчамілка. Шчамілка на мал. 86 так-

сама ручная, дзеравяная; у сярэдзіне, у разрэзе



Мал. 83.

яна выкладзена дротам, які і зьдзірае кару з дубцоў.
Шчамілка Куна (мал. 87) складаецца з двух жалезных

рожкаў *аа* з круглага жалеза ў мезены палец таўшчыні. Канцы іх *бб* прыклёпаны да сталёвай спрун-



Мал. 84.



Мал. 85.



Мал. 86.



Мал. 87.

жыны *в*, якая зроблена з плоскай стружкавай сталі у $^3/_8$ цалі таўшчынёю і $1^1/_2$ цалі шырынёю. Каб плечы *аа* у час работы хадзілі роўна, ня хісталіся ўперад і ўзад, да іх прымайстравана вадзіла *Г*. Вадзіла—гэта доўгі сталёвы стрыжань, які адным канцом прымацаваны да аднаго пляча, а другі яго канец праходзіць скрозь дзірку ў другім плячы. Даўжыня гэтай шчамілкі 14 цаляй; кару з дубцоў зьдзірае бюгель. Кожную з паказаных шчамілак цямлівы майстар можа перарабіць і дапасаваць да работы, як яму лепш і зручней. Якую-б шчамілку мы ні зрабілі, спосаб работы на іх адноль-

кавы. Калі шчамілка непарушна стаіць на зямлі (мал. 82) ці на падлозе (мал. 84 і 86), то работнік сядае каля яе гэтак, каб яна была паміж ног. З правага боку кладзе запас дубцоў камлямі наперад. Левай рукой работнік прытрымлівае і, калі трэба, сьціскае шчамілку; правай—бярэ дубец і тоўстым канцом, адступіўшы вяршкі на 4 ад камля, закладвае ў шчамілку; зьлёгка, каб не пашчапаць і не сапсаваць дубца, сьціскае яе і правай рукой хутка працягвае дубец да сябе. Кара на ім трэскаецца і адстае ад сьцябла. Тэй-жа правай рукой работнік пераймае дубец за другі канец, закладвае яго ў шчамілку з таго месца, дзе кара адстала, і зноў працягвае. Кара злазіць з дубца, як панчоха. Каб мацней трымаць мокрыя і сьлізкія ад соку абадраныя часткі дубца, работнік адзяе на правую руку палатняную рукавіцу або пальчатку.

Абдзёрты дубец трэба як найхутчэй высушыць і выбеліць. Абдзіраць дубцы лепш на такім месцы, дзе і сонца грэе і вецер прахватвае. Вецер сушыць абадраныя дубцы, а сонца беліць іх. Пры сухім ясным надвор'і можна расьсьцілаць іх тонкім слоем проста на зямлі, а лепш рабіць гэтак: паблізу ад месца абдзіркі дубцоў убіваюць у зямлю ў два радкі, аршыны на два радок ад радка, невялікія—ня больш як 3/4 аршына—дзеравяныя калкі; на калкі, уздоўж радкоў, а месцамі дзе-ні-дзе і ўпоперак, прыбіваюцца плянкі (жэрдкі, дошкі); адлегласьць паміж плянкамі заплятаюць вяроўкаю накшталт сеткі. Яшчэ-ж лепей—з дошак або тонкіх жэрдак рабіць рамы такой велічыні, каб іх можна было класьці на калы; рамы трэба таксама заплесьці

вяроўкамі. На сетку ці на гэтыя рамы тонкім пластом і расьсьцілаюць абадраныя дубцы. Вецер будзе прахватваць іх і зьнізу і зьверху, і яны хутчэй высахнуць. Перад даждж ом гэтыя дубцы куды-небудзь трэба ўносіць, каб іх не памачыла. Ні ў якім разе ня можна дубцы, якія падсохлі, складваць у вялікія кучы і так іх доўга трымаць. Ад усякай вільгаці, а асабліва ў кучах, дзе хутка зьяўляецца цяплыня, вярбовыя дубцы скора прэюць, плесьнеюць, пакрываюцца чорнымі плямамі, робяцца крохкімі і няпрыдатнымі для работы. Калі дубцы высахнуць і выбеляцца, іх зьвязваюць у пукі, але туга не заціскаюць, каб паветра магло вольна праходзіць паміж дубцоў, і стаўляюць іх старчаком дзён на 10 у хлеў ці якое іншае сухое месца. Урэшце, дубцы канчаткова сартуюць паводле даўжыні і таўшчыні і ўжо моцна вяроўкай, цынкавым дротам, жгутам з таго-ж дубца або чым іншым моцным зьвязваюць у снапкі па $^1/_2$ пуда вагой. Кароткія снапкі зьвязваюцца ў двух мясцох, а доўгія—у трох: каля камля, пасярэдзіне і бліжэй да вяршыні. Каб перавясла на снапкох не спаўзала, ім у некаторых мясцох падрзяюць некалькі дубцоў і перавязваюць камель упоперак, як паказана на малюнку 88, або ўпоперачныя перавяслы зьвязваюць з двух бакоў яшчэ ўздоўжнымі. Калі дубцы прызначаны на продаж, і іх будуць далёка перавозіць ці перасылаць, то снапкі павінны быць зьвязаны, як можна тужэй, каб у дарозе не растрэсьліся і не рассыпаліся. Так пакаваць дубцы можна з дапамогай спэцыяльнай прылады, якая завецца „Боа". Гэтая прылада

(мал. 89) пабудована так: яна мае сталёвы кол *д* і дзеравяны падважнік (рычаг) *б*, паміж іх жалезны



Мал. 88.

ланцуг або моцная вяроўка *в*. Кол мае акружак (розетку) і баньку (кальцо) *д*, якая можа круціцца. Ужываюць гэтую прыладу вось як: ланцуг ці вяроўку расьсьцілаюць на зямлі; на яе кладуць пук дубцоў, якія загадзя зьвязаны раменьчыкам або шпагатам (кладуць тым месцам, дзе трэба моцна зьвязаць). Кол *а* ўтыкаюць да акружка ў пук; другім канцом вяроўкі ці ланцуга абхапляюць баньку *д* і падважнікам *б* накручваюць вяроўку на кол, аж пакуль пук ня будзе туга ўціснуты. Тады пук моцна




Мал. 89.

зьвязваюць па гэтым месцы шпагатам, дротам або такім-жа дубцом, а ланцуг здымаюць і перакладваюць на другое месца. Для зьвязваньня тонкіх дубцоў гэтая прылада не падыходзіць: яна можа іх паламаць; апроч таго, калі дубцы занадта туга ўціснуты, то паміж іх праходзіць мала паветра, а ад гэтага матар'ял хутка псуецца. Затое, калі трэба зьвязваць тоўстыя дубцы, гэта прылада незаменна.

**Карысьць ад вярбовай кары.** Ад абдзіркі дубцоў заўсёды застаецца шмат кары, якую часамі ўжываюць на апал, а то й проста выкідаюць, як непатрэбнае сьмецьце. А між тым, калі яе як належыць скарыстаць, яна можа даць добры зыск або прынесьці вялікую карысьць у гаспадарцы. Вярбовая кара мае ў сабе досыць шмат гарбоўнай кісьлі і ідзе ў гарбарнях на гарбоўку скуры. Асабліва каштоўна яна пры вырабе юхты, замшы і лайкі. Тут вярбовая кара значна каштоўней за дубовую кару, якая таксама ідзе на гарбоўку, каштоўней таму, што памянёныя гатункі скуры, калі іх апрацаваць вярбовай карой, выходзяць куды больш мяккімі, сьветлымі й далікатнымі, чым ад дубовай кары. Цана на сушоную вярбовую кару бывае розная (прыкладам, ад 16 да 24 рублёў за пуд) у залежнасьці ад таго, з якіх дубцоў зьдзёрта кара—з тонкіх ці грубых, як яна высушана (ці ня была пад дажджом) і колькі мае ў сабе гарбоўнай кісьлі. Лепшым гарбоўным матар'ялам лічыцца кара з тонкіх дубцоў, калі яна добра высушана і ў час прасушкі ня была пад дажджом; кара, якая мокла—няпрыдатна. Значыцца, для гарбарань няпрыдатна і кара ад зімовай абдзіркі гатаваных дубцоў.

Каб вярбовую кару выгадна прадаць, за ёй трэба добра даглядзець. Дагляд за карой складаецца вось з чаго: як толькі кару зьдзяруць з дубцоў, яе зараз-жа пачынаюць сушыць такім самым парадкам, як і дубцы, г. ё. на сухой зямлі, або на сетках расьсьцілаюць тонкім слоем і сваячасова старанна варочаюць. Кожным вечарам кару зграбаюць у кучы, у першыя дні ў невялікія, каб не сапрэла, а потым—у вялікія; зграбаюць і чым-небудзь старанна накрываюць, каб уначы не памачыў нечаканы дождж, або зносяць яе пад паветку. Раніцай кару зноў расьсьцілаюць і некалькі разоў на дзень варочаюць.

Пры добрым веснавым надвор'і, і да таго-ж пры такім даглядзе, за 5-6 дзён кара досыць насохне, тады яе зьвязваюць у міткі і да продажухаваюць у зачыненым сухім месцы, дзе працягвае ветрык.

Якасьць гэтай высушанай, але ня тоўчанай кары пазнаецца, галоўным чынам, па яе выглядзе. Добрая кара, калі яна зьдзёрта з тонкіх маладзенькіх дубцоў і галін, захоўвае свой ранейшы выгляд і пасьля таго, як высушана. Калі-ж кара тоўстая, мае буры колер, то яна нічога ня варта; яе трэба спаліць, або скарыстаць на подсьціл скаціне. У работу йдзе кара тоўчаная або меленая. Спэкулянты і нясумленныя людзі для большай вагі дамешваюць у вярбовую кару ня толькі кару іншых дрэў, напр., асіны, але й гнілое дрэва і нават гліну. Дзеля таго ў гарбарнях ахватней купляюць кару, якая высушана, але не патоўчана.

Добрая тоўчаная кара павінна мець белаваты ці чырванаваты колер, мець даўкі смак і не павінна пахнуць зямлёй ці гнільлём. Ці дамешана да

кары зямля або гліна можна пазнаць вельмі простым спосабам: узяць прыгаршчы кары, усыпаць яе ў шклянку, наліць вады і памяшаць,—зямля і гліна перш скаламуцяць ваду, а потым абсядуць на дно. Як мы казалі, цана на кару залежыць яшчэ ад таго, колькі яна мае ў сабе гарбоўнай кісьлі. Каб даведацца аб гэтым, ёсьць розныя спосабы але найчасьцей ужываюць для гэтага рыбны клей, які разам з гарбоўнай кісьлёй дае вопадзь. Кожны гаспадар засаджанага вярбовага поля, кожны прамыслоўца па кашэльнаму матар'ялу павінен цьвёрда памятаць, што ад аднэй толькі партыі дрэннай кары гарбарня можа мець вялізную страту і назаўсёды зарачэцца купляць вярбовую кару. Дзеля таго куды больш выгадна для абедзьвюх старон—і хто прадае, і хто купляе—не дапушчаць ашуканства пры продажы кары.

Калі кара ня прыдатна, як гарбоўны матар'ял, то яна йдзе на апал, на подсьціл скаціне, на ўпагноеньне вярбовых плянтацый, альбо замест саломы ўжываецца для набіваньня сяньнікоў, дзе яна нават карысьней за салому і, урэшце, з яе можна плесьці і ткаць танныя падножнікі на падлогу, якія куды мацней, чым саламяныя ці зробленыя з морскай травы.

## ПЛЯЦЕНЬНЕ КАШАЛЕЎ.

Пляценьне кашалёў—справа не цяжкая, але апісаць усе розныя кашэльныя работы, апісаць на паперы ўсе способы пляценьня і па кніжцы навучыць кашэльнаму рамяству няма магчымасьці. Няма больш такога рамяства, дзе-б праца ішла так рознастайна, як у кашэльнай вытворчасьці. Тут—нават у аднэй і тэй самай рабоце—што ні майстар, то свой асобны способ плесьці. Дзеля таго мы пагаворым толькі аб самым простым пляценьні асноўных кашэльных вырабаў. Навучыўшыся простай рабоце, дасьціпны майстар заўсёды здолее дадаць што-небудзь новае: там інакш зробіць вяровачку, там уставіць пяцельку, там дубчык іначай пераўе, глядзіш—кошык вышаў і больш моцны прыгажэйшы. То сам майстар што-небудзь прыдумае, то падгледзіць у таварыша і пяройме ў яго,—і справа ўсё лепш і лепш ідзе. Так вучыліся, вучацца і будуць вучыцца свайму рамяству саматужнікі-кашэльнікі.

Усе кашэльныя вырабы можна падзяліць на наступныя групы: 1) шэры ці зялёны тавар—самы просты, з неабдзёртых дубцоў; гэта пераважна кашалі для пакаваньня; 2) белы тавар—розныя плецены куфры, падарожнікі, ручныя кашалі, кашалі пад бялізну і да т. п.; 3) мастацкія кашэльныя вырабы; 4) мэбля і 5) экіпажы і дзіцячыя каламашачкі

Белы тавар, у сваю чаргу, падзяляецца на тры гатункі: а) вырабы з абдзёртага, але цэльнага (не-

шчапанага) матар'ялу; б) вырабы з шчапаных шын і в) больш далікатныя вырабы. Мастацкімі завуць тыя вырабы, якія могуць служыць акрасай мяшканьня ці саду, напр., альтанкі, розныя кашы і кошыкі пад кветкі, пад хлеб, сухары, цукеркі, пад садовіну і г. д. Гэтыя вырабы рабіць больш цяжка, затое яны даражэй і прадаюцца,—іх выгадна рабіць саматужніку.

З сухіх дубцоў нічога ня зробіш: яны дрэнна гнуцца і ламаюцца. Каб зрабіць дубцы гнуткімі і прыдатнымі для работы, іх мочаць. Як доўга трэба мачыць дубцы, дакладна вызначыць нельга; навучыць гэтаму можа толькі свая спрактыкаванасьць. Намочваюць дубцы ў ванне, у карыце, нават у рэчцы, у саджалцы або ў копанцы, наогул там, дзе ёсьць гэтулькі вады, што ў яе можна пакласьці снапкі дубцоў ці палак. Як дубцы, так і палкі павінны размакаць аднолькава па ўсёй даўжыні, а дзеля таго іх у ваду не стаўляюць, а кладуць. Калі матар'ял у часе работы падсыхае, то яго толькі зьлёгка намачваюць, абціраючы для гэтага мокрай анучкай або макаючы адзін-два разы ў ваду, калі гэта зручна і магчыма зрабіць. Круглы і грубы матар'ял, зразумела, мочаць больш доўга, чым тонкія шыны.

**Пляценьне чатырохкантовых кашалёў.** Няхай нам трэба сплесьці падарожны кашэль-куфэрак на ўзор, паказаны на малюнку 90. Ён павінен быць 12 вяршкоў даўжынёй, 7½ шырынёй і 6½ вышыней. Тут да рэчы можна сказаць некалькі слоў аб велічыні кашалёў наогул і падарожных кашалёў-куфраў у васобнасьці. Наогул кашалі можна

плесьці такой велічыні ў даўжыню, шырыню і вышыню, каму якая патрэбна ці падабаецца. Але



Мал. 90.

ўсё-ж такі існуе як-бы нейкая пэўная велічыня для кашалёў. У залежнасьці ад запатрабаваньняў тых, хто купляе, гэтая велічыня можа зьмяняцца; дасканала вывучыць гэтую велічыню можна паступова—практыкай і назіраньнем за вымаганьнямі рынку. Тое самае можна сказаць і аб падарожных кашалёх-куфрах у васобнасьці; наогул-жа яны павінны мець такую велічыню, каб маглі лёгка прайсьці ў дзьверы вагонаў і таксама лёгка зьмясьціцца пад лаўкай ці на паліцы. Калі гавораць пра велічыню кашаля-куфра, то маюць на ўвазе даўжыню яго: 10, 12, 14, 16, 18... 24 вяршкі, а шырыня і вышыня яго робіцца адпаведна даўжыні, а іменна: шырыня складае $2/3$ даўжыні або трошкі менш, а вышыня—на поўвяршка або на вяршок менш за шырыню. Так возьмем і мы для нашага кашаля-куфра: шырыня яго ня 8, а $7^{1}/_{2}$ вяршкоў, а вышыня $6^{1}/_{2}$ в.

Амаль усе кашалі пачынаюць плесьці з дна, і мы пачнем рабіць таксама. Дно можна плесьці або на дошцы (мал. 36), або на стале (мал. 91).




Мал. 91.

Будзем плесьці на стале і памятаць, што і на дошцы робяць гэтак сама. Перш набіраюць аснову для дна.

Для асновы возьмем грубыя дубцы або, лепш сказаць, палачкі ў поўцалі таўшчыні. Гэтыя палачкі павінны быць роўныя, а калі-ж яны крывыя, то жамкай (мал. 30) іх выпраўляюць і выпростваюць. Нажом палачкі гэтыя шчапаем напалам; рашчэп тым самым нажом на левым калене выстругваем, каб ён быў роўны і гладкі. Усяго нам трэба нарыхтаваць 12 палавінак: 8 асновін у сярэдзіну і па пары на краі. Гэты цотны лік асновін—10, так лягчэй плесьці; а можна паставіць і няцотны лік—9, тады плесьці больш цяжка, як убачым далей. Калі аснова—стойкі паструганы, іх становяць і ўма цоўваюць у шчыліну паміж краем стала і плянкаю, як паказана на мал. 91. Пры ўстаноўцы асновы трэба трымацца наступных правіл: чым танчэй дубцы для пляценьня, тым аснова гусьцей становіцца, чым грубш дубцы,—тым радзей, каб іх можна было лёгка абгінаць наўкол стоек. На $7^{1}/_{2}$ вяршкох мы паставілі 10 стоек, а можна было паставіць і 9—няцотны лік. Затым бяруць дубец, сярэдзінай закладаюць яго паміж стойкамі *А* і *а* за *А*. Тонкі канец заплятаюць: сьпераду *а*, за *б*, сьпераду *в* за *г* і там канец кідаюць, калі ён кароткі. Потым леваю рукою бяруць камель дубца, абгінаюць ім моцна к сабе стойку *А*; пераймаюць дубчык у правую руку, а леваю абціскаюць яго наўкол стойкі і заплятаюць: за стойку *а*, сьпераду *б*, за *в*, сьпераду *г*, за *д*; тут ззаду (сьпераду канцоў не пакідаюць) камель канчаецца. У гэтым месцы за тую самую стойку *д* камлём закладаюць новы дубец і плятуць яго ў правы бок: сьпераду *е*, за *ж*, сьпераду *з*, за стойку *Б*. Правай рукой

абгінаюць дубец к сабе наўкол стойкі, пераймаюць яго ў левую руку, а правай абціскаюць наўкол стойкі і плятуць у левы бок: за стойку *з*, сьпераду *ж* і гэтак далей да стойкі А, абгінаюць яе, як і раней, і плятуць у правы бок, колькі хопіць дубца. Кароткі і зусім тонкі канец яго за якой-небудзь стойкай кідаюць і за тэй самай стойкай камлём закладаюць новы дубец. І гэтак, заплятаючы дубец за дубцом, выплятаюць усё дно, час-ад-часу прыкідваючы меркай з дубца або з палачкі—ці ўсюды шырыня аднолькавая. Тонкі канец апошняга дубца ўверсе прапускаюць і зацягваюць пад дубец, які ляжыць ніжэй.

Каб пляценьне было больш шчыльным, час-ад-часу сплеценыя радкі абіваюць білам (мал. 29), але так, каб не пабіць і не пашчапаць дубцоў. Калі ўсё дно заплецена, яго зьнімаюць са стала; тонкі канец першага ніжняга дубца замацоўваюць таксама, як замацавалі апошні верхні дубец. Потым садоўніцкай пілкай або вострымі садоўніцкімі нажніцамі сьпільваюць або зразаюць каля самага пляценьня канцы асновін з абодвух бакоў дна, і дно зусім гатова Цяпер трэба яго абасноўваць і выплятаць бакавыя сьценкі кашаля. Але перш чым гэта рабіць, трэба з тых-жа самых вярбовых палачак або з тонкіх брусочкаў другога дрэва прырыхтаваць прымернік для кашаля (гл. мал. 40.) Даўжыня й шырыня прымерніка па знадворных краёх павінны быць роўнымі даўжыні й шырыні сплеценага дна. Цяпер набіраюць аснову для бакавых сьценак кашаля асновай служаць круглыя простыя палкі з тэй-жа вярбы або палкі, выструганыя з якога-небудзь іншага дрэва на кутнія слупкі, якія потым будуць

служыць галоўнай апорай кашаля, і круглыя дубцы, даўжынёю ўдвая большыя, чым вышыня кашаля, каб іх хапіла ня толькі на бакі кашаля, але й на выплетку падзакраю, на які ляжа потым вечка. Канцы камлёў у дубцоў, якія адабраны на аснову. завострываюць накшталт долата гэтак, каб зрэз даўжынёю 1 1/2—1 3/4 вяршка, па магчымасьці, быў роўны. Кладуць дно на стол або лаўку тым бокам, дзе абрэзаны канцы заплеценых дубцоў, уніз і пры гэтым-так, каб доўгі край дна ішоў уздоўж краю па даўжыні лаўкі, а вузкі край дна—уздоўж краю па шырыні лаўкі. Прыціскаюць дно каленам або сядаюць на яго, каму як зручней, і пачынаюць вузкі край дна абасноўваць, утыкаючы ў шчыліны ўздоўж асновін і дзе будзе магчыма завостраныя канцы дубцоў зрэзам уніз. Гэтыя канцы павінны ўвайсьці ў пляценьне дна на 1—1 1/4 вяршкі. Калі што-небудзь перашкаджае ўвагнаць іх на гэтулькі, для іх асьцярожна, не шчапаючы дубцоў, аслабаняюць месца шылам. Самае галоўнае, за чым трэба тут глядзець, гэта—каб усе асновіны былі на аднолькавай адлегласьці адна ад другой. Замацованыя дубцы асьцярожна згінаюць уніз. Калі абасньваны ўвесь край, канцы дубцоў зьлёгка зьвязваюць у купу, каб яны не папуталіся паміж сабою. Дно пераварочваюць другім краем, і гэты край абасноўваюць такім самым парадкам, як і першы, і канцы дубцоў зноў зьвязваюць. Каб аснова абодвух краёў кашаля не ляжала, а стаяла, як належыць ёй стаяць пры пляценьні,—яе падымаюць, надзяваюць на дубцы прымернік, да якога іх і прывязваюць (мал. 43). Далей абасноўваюць удоўжны край

дна. Гэта робяць так: бяруць дубец, які завостраны, як паказана вышэй, асьцярожна згінаюць яго ў бок зрэзу пад простым кутом. Шылам назначаюць для асновіны месца пад пляценьнем у левым канцы ўдоўжнага краю дна, падсоўваюць туды завостраны канец дубца (мал. 34), а па выгіну чымнебудзь пастукваюць, пакуль увесь завостраны канец да выгіну ня ўвойдзе пад пляценьне. Гэтак, устаўляючы дубец за дубцом і плятучы ў правы бок, абасноўваюць увесь удоўжны край, накіроўваючы вольныя канцы асновы ў сярэдзіну прымерніка. Тут, як і раней, трэба глядзець, каб дубцы асновы былі на аднолькавай адлегласьці адзін ад аднаго. Як скончаць абасноўваць адзін удоўжны край дна, таксама абасноўваюць і другі.

Пасьля гэтага замацоўваюць аснову, каб яна лепш трымалася, устаўляюць і ўмацоўваюць кутнія слупкі. Для гэтага аплятаюць дно аднэй, двума або трыма вяровачкамі. Вяровачкі можна рабіць у два, у тры, чатыры і пяць дубцоў вось як (мал. 9) і няхай нашая вяровачка будзе ў чатыры дубцы. Паміж стойкамі *а* і *б*, *б* і *в*, *в* і *г*, *г* і *д*, закладваюць дубцы *А*, *Б*, *В*, *Г* так, каб даўжэйшыя часткі дубцоў з камлямі былі па адзін бок, а кароткія тонкія канцы па другі бок асновы. Зато дубец *А* бяруць у правую руку, абводзяць сьпераду міма стоек *б*, *в*, *г* за стойку *д* і зноў выводзяць наперад; дубец *Б* абводзяць сьпераду міма стоек *в*, *г*, *д* за стойку *е* і выводзяць наперад; дубец *В* абводзяць міма стоек *д*, *е*, *ж* за стойку *з* і наперад; дубец *Г* -- міма стоек *е*, *ж*, *з* за стойку *і* і наперад. Потым зноў дубец *А* абво-

дзяць праз тры стойкі за чацьвертую і наперад; так-жа сама заплятаюць зноў дубцы *Б*, *В*, *Г*; потым зноў пачынаюць з *А* і г. д., пакуль ня будзе скончана наўкол усяго дна нашая вяровачка. Калі пры гэтым які-небудзь дубец будзе даплецены да канца, яго надстаўляюць: кончыцца камлём—насустрач надстаўляюць таксама камлём, потым кончыцца верхавінкай—надстаўляюць верхавінкай. Канцы тых дубцоў, што канчаюцца, заўсёды выводзяць наперад і тут, калі вяровачку скончаць, іх абрэзваюць, як абрэзваюць канцы і з адваротнага боку. Калі вяровачка дойдзе да кутка, ставяць слупок і, лічачы яго за звычайную стойку асновы, плятуць вяровачку ў такім парадку, як і раней, г. ё. кожны дубчык праз тры стойкі заводзяць за чацьвертую. Выйдзе, што тры дубцы абгінаюць слупок з надворнага боку і адзін з сярэдзіны. Уверсе слупок прывязваюць да знадворнага кута прымерніка. Дойдзе вяровачка да другога, да трэцяга, да чацьвертага кутка—робяць таксама. Калі вяровачка дойдзе да таго месца, дзе яна пачалася, то першы верхні дубец прасоўваюць насустрач першаму ніжняму дубцу, з якога мы пачалі вяровачку плесьці, другі прасоўваюць насустрач другому, трэці—насустрач трэцяму, чацьверты—чацьвертаму, і вяровачка скончана.

Каб уся аснова разам са слупкамі лепш трымалася й стаяла, плятуць такім самым парадкам другую, а калі трэба ці падабаецца майстру, то й трэцюю вяровачку—кожную ў тры дубцы або ніжнюю ў тры дубцы, а верхнюю ў два; гэтыя вяровачкі плятуць таксама, як і тую, якая толькі што спле-

цена. Розьніца будзе толькі вось у чым: калі трэба сплесьці вяровачку ў тры дубцы,—тры дубцы й закладваюць, і кожны дубец праз два дубцы абводзяць за трэці; калі трэба сплесьці ў два дубцы,—два дубцы й закладваюць, і кожны дубец праз адзін заводзяць за трэці.

Калі патрэбны лік вяровачак зроблен, пачынаюць плесьці бакі кашаля. Бакі можна выплятаць або адным пляценьнем, або рознымі. Асноўных пляценьняў чатыры: 1) радкі адным дубчыкам — праз адзін за адзін (дубец-аснову, мал. 93); 2) такія



Мал. 93.

самыя радкі ў два дубцы (мал. 94); 3) радкі адным дубчыкам—праз два за трэці (мал. 95); 4) адным дубчыкам праз два за два—у шашку (мал. 96). Першае пляценьне пляцецца гэтак: дзе-небудзь, пераважна на вузкім баку кашаля, паміж двух асновін закладваюць дубец, камлём ад сябе (*А*, мал. 93) і плятуць яго ў правы бок праз адзін за адзін да самага канца; вельмі тонкі і нямоцны канец не заплятаюць, а пакідаюць звычайна ў сярэдзіне кашаля, каб знадворны бок быў зусім гладкі. Калі адзін дубец заплецены, закладваюць другі за наступную асновіну пасьля першага камля (*Б*) і заплятаюць, як паказана. І так за кожную наступную

асновіну закладваюць усё новыя і новыя дубцы, якія заплятаюць гэтак, як і першыя. З левага боку камлі ўкладваюцца перш накшталт усходаў. Гэта нічога. Калі пляценьне абойдзе наўкол кашаля і



Мал. 94.

дойдзе да таго месца, адкуль мы пачалі плесьці гэтыя ўсходы закладуцца: адзін дубец пойдзе насустрач камлю *А* і тут кончыцца, другі—насустрач *Б* і таксама кончыцца, трэці насустрач *В* і г. д., і сходаў ня будзе.



Мал. 95.

Хто навучыўся плесьці першае пляценьне, для таго плесьці усе астатнія будзе зусім лёгка, бо яны

адрозьніваюцца ад першага і паміж сабою толькі лічбай стоек-асновін, міма якіх і за якія абводзяць і заводзяць той дубец, якім плятуць (праз адзін




Мал. 96.

за адзін, праз два за адзін і праз два за два), або лікам дубцоў, якімі плятуць (у вадзін ці ў два дубцы).

Трохі больш цяжкім зьяўляецца апошняе пляценьне—у шашку, і то толькі па куткох. Пры ўсіх іншых пляценьнях кутавая стойка, або кутнік (угольнік), як яе называюць яшчэ саматужнікі, лічыцца за звычайную стойку і заплятаецца ў агульным парадку: праз адну за адну або праз дзьве за трэцюю. Пры пляценьні-ж у шашку, кутнік звычайнай стойкай ня лічыцца і заплятаецца асобна (мал. 96). Дубец *а*, які пачынаецца ад кутніка *А*, ідзе праз дзьве за дзьве, а каля стойкі *Б*—*праз дзьве за адну стойку В*, укола кутніка *Б* і далей—на другім баку—*за адну праз дзьве*, за дзьве і г. д. Дубец *б* перад стойкай *Б* ідзе праз дзьве за дзьве, ***праз адну за кутнік*** і далей—на другім баку—***праз адну за дзьве*** і г. д. Дубец *в* пляцецца як *а*, дубец *г*—як *б* і г. д. Колькі, якія і дзе плесьці на кашалі-куфры вяровачкі, дзе якое плесьці пляценьне,—усё гэта залежыць ад густу і умельства майстра. Усякае

пляценьне праз некалькі радкоў зьбіваецца білам. Увесь час, калі плятуць кашалі, глядзяць, каб правілова стаяла аснова, каб правілова стаяў увесь стан кашаля; як толькі будзе заўважана якая-небудзь неправіловасьць, яе зараз-жа папраўляюць. Калі бакі кашаля будуць абплецены, плятуць апошнюю вяровачку ў тры, чатыры, а то і ў пяць дубцоў. Калі вяровачка будзе зроблена, застаецца сплесьці падзакрай пад вечка. Падзакрай робіцца гэтак (мал. 97): за апошняй тоўстай вяровачкай, якая заканчвае пляценьне бакоў кашаля, плятуць яшчэ дзьве вяровачкі ў два дубчыкі (праз адзін за адзін). Гэтымі вяровачкамі ўсе канцы асновы зьлёгка сьцягваюцца і робяцца крыху нахіленымі ў сярэдзіну куфра. Нарэшце, з пазасталых канцоў выплятаюць шляк (бордюр) падзакрая гэтак: канец *а* на вышыні вяршка згінаюць у правы бок і плятуць: ззаду *б* і *в*, сьпераду *г* за *д*, сьпераду *е* за *ж*




мал. 97.

і гэтак далей, пакуль канец дубчыка *а* ня дойдзе да вяровачкі. Згінаюць таксама дубчык *б* і плятуць: за *в* і *г*, сьпераду *д*, за *е* і гэтак далей. Гэтак-жа сама загінаюць і плятуць адзін над другім усе іншыя канцы асновы: праз два ззаду і далей праз

адзін за адзін. Калі шляк абойдзе наўкол кашаля, апошнімі канцамі будуць заплецены пустыя месцы паміж *а* і *б*, *б* і *в*, *в* і *г*.

Галоўная частка нашага кашаля гатова, трэба толькі ў ім абрэзаць усе непатрэбныя канцы. Далей трэба плесьці вечка. Вечка павінна быць такой самай даўжыні і шырыні, як і стан кашаля, а вышыня ў сярэдзіне павінна быць роўнай вышыні падзакраю або на ¼ вяршка вышэй за яго. Вечка плятуць у такім-жа парадку, як плялі самы кашэль, г. ё.: дно, аснову, вяровачкі, бакі вечка і, нарэшце шляк. Усе работы ідуць так, як паказана вышэй. А дзеля таго мы зноў казаць усяго ня будзем, а скажам толькі пра некаторыя асаблівасьці ў пляценьні дна вечка і шляку. Дно вечка трэба старацца сплесьці як мага лепш і прыгажэй; па краёх і пасярэдзіне выплятаюць вяровачкі; лік вяровачак залежыць ад густу майстра і велічыні вечка. Падвойныя і патройныя вяровачкі плятуцца ў розныя бакі: адна ў правы, другая ў левы бок, дзякуючы чаму пляценьне выходзіць накшталт елачкі. Канчаецца вечка вяровачкай у два-тры дубцы і загінкай (крайкай). Загінку робяць гэтак: няхай у нас (мал. 98, 99, 100) *а, б, в, г, д, е, ж, з, і, к, л* будуць пачаткі канцоў асновы; *а* мы абводзім сьпераду праз *б* і *в*, ззаду за *г*, сьпераду праз *д* і *е*, і за *ж* канец кідаем ззаду,—г. ё. пляцем: праз два за адзін і праз два. Можна канец пасьля двух абвесьці зноў за адзін, г. ё. плесьці: праз два за адзін, праз два за адзін, і канец кідаць сьпераду. Можна плесьці і гэтак: праз два за адзін, праз два за адзін і праз два за адзін, г. ё. аднавіць „праз два за адзін“—

тры разы, тады загінка будзе грубей. Так як *а* заплятаем пачаткі канцоў *б*, *в*, *г*, *д* і гэтак далей.

Можна раіць яшчэ такую загінку больш шчыльную і моцную, прыдатную на бераг (борт) якога хо-




Мал. 98.

чаш кашаля (мал. 101). Няхай *А, Б, В, Г, Д, Е, Ж* будуць канцы асновы. *А* згінаем у правы бок перад *Б* за *В* і паміж *В* і *Г* накіроўваем уніз і тут




Мал. 99.

пакідаем. Сюды-ж згінаем і *Б*. Цяпер паміж *В* і *Г* ляжыць пара канцоў — *А* і *Б*. Далей канец *В* згінаем у той-жа бок сьпераду *Г* за *Д* і паміж *Д* і *Е* накіроўваем уніз і пакідаем; сюды-ж накіроўваем канец *Г*. Паміж *Д* і *Е* атрымалася новая пара — *В* і *Г*. З пары *А* і *Б* возьмем пярэдні канец *Б* і загнем

яго сьпераду *Д* за *Е*; сюды-ж завядзем і стойку *Д*. Паміж *Е* і *Ж* атрымаем новую пару канцоў *Б* і *Д*. Цяпер з наступнай пары *В* і *Г* возьмем пярэдні дубец *Г* і завядзем сьпераду суседняга, за наступны і ўніз; да яго падгінаем канец *Е*. Гэтак робім далей, аж пакуль не абойдзем наўкол кашаля. Бераг наш выйдзе такі, як на мал. 101. Каб скончыць



Мал. 100.



Мал. 101.

бераг, бярэм канец *А* (мал. 102), працягваем яго ў дзірку *Г*, канец *В*—у дзірку *Д*, наступны канец—у дзірку *Е* і г. д. па ўсёй акружыне кашаля. Усе канцы апынуцца цяпер у сярэдзіне і іх зразаюць наўскасяк, пакідаючы запас у $^1/_2$—$^3/_4$ вяршка. Калі кош як сьлед высахне, гэты запас гладка абрэзва-

юць, і ўвесь бераг кашаля набывае такі выгляд, які паказаны на мал. 103. Стан і вечка зроблены; застаецца прымайстраваць завесы і засаўку. Мэта-




Мал. 102.

. . вые завесы й засаўкі прадаюцца гатовымі, толькі купіць і прыстроіць. Калі-ж дастаць іх нельга, то й адно і другое робяць з дубцоў або, яшчэ



Мал. 103.

лепш, з струганага камыша. Замест завес берагі стана і вечка ў двух-трох мясцох зьвязваюць так, каб вечка магло лёгка адчыняцца й зачыняцца. Засаўку да кашаля зрабіць таксама вельмі проста. У адным ці ў двух намечаных мясцох стану кашаля над апошняй крайкай-выровачкай упушчаюць петлі, на петлі адзяюцца накладкі, якія прымацованы да вечка. І накладкі і петлі робяць двума спосабамі: з двух скручаных дубцоў плятуць выровачку; з выровачкі робяць пятлю; канцы яе прасоўваюць у намечаным месцы ў сярэдзіну кашаля і там іх замацоўваюць; а то можна пятлю згінаць з шыны (мал. 104-105),

прасоўваючы яе у намечаным месцы скрозь пляценьне каша. Гатовую пятлю шчыльна абвіваюць тонкай шынай або, яшчэ лепш, тонкім



Мал. 104–105.

струганым камышом. Для накладкі з дубцоў або шыны робяць патрэбнай велічыны паўкруглы абручок; гэты абручок бліжэй да аднаго канца сьцягваюць і атрымліваюць накладку накшталт васьмёркі (мал. 106). Накладку, як і пятлю, шчыльна абвіваюць



Мал. 106.

тонкай шынай або камышом. Меншы канец накладкі прымацоўваюць да вечка, а другі — надзяваюць на пятлю (мал. 107). Застаецца зрабіць засаўку. Для гэтага бяруць патрэбнай даўжыні і таўшчыні палачку; з аднаго канца прымацоўваюць пятлю з шыны ці камыша, з другога—папярочную

палачку такой даўжыні, каб яна не магла пралезьці ў пятлю. Палачку і ўсе яе часткі моцна і шчыльна абвіваюць тонкай шынай ці камышом, і засаўка гатова (мал. 108). Яе прасоўваюць у петлі паўзьверх накладак, у пяцельку палачкі вешаюць замок, і кашэль замкнуты.



Мал. 107.

Дзеля таго, каб кашэль-куфар можна было пераносіць, да яго дарабляюць ручкі. Калі кашэль невялікі—досыць аднэй ручкі, якая робіцца зьверху, на сярэдзіне вечка. Калі-ж вялікі — дарабляюць дзьве ручкі, якія прымацоўваюць да вузкіх бакоў стану. Ручку робяць гэтак: з двух ці трох вярбовых дубцоў згінаюць паўкруглы абручок, які шчыльна абплятаюць струганай шынай, а лепш камышом. Абручок гэты ў двух мясцох прымацоўваюць дуб-



Мал. 108.

цамі або камышом да сьценак кашаля так, каб ручка магла лёгка хадзіць уверх і ўніз. Робяць ручкі і нярухомыя; гэта залежыць ад жаданьня

майстра і ад таго, на што прызначаны кашэль. Калі пляценьне кашаля будзе скончана, у ім



Мал. 109.

абразаюць усе непатрэбныя канцы, выроўніваюць, даюць падсохнуць, і кашэль можна ўжо ўжываць. Хто навучыцца плесьці вось такі кашэль-куфар, той зробіць які хочаш чатырохкантовы кош (мал. 109).

**Пляценьне круглых кашалёў:** Круглыя кашалі робяць такім-жа парадкам, як і чатырохкантовыя: робяць дно, выплятаюць стан і вечка, калі яно патрэбна, і дарабляюць ручкі, а дзе трэба—і засаўку. Дно—аснова каша. Калі дно крывое або дрэнна сплецена і змацована,—увесь кош будзе дрэнна трымацца і можа раскідацца. Дзеля таго дно трэба злучаць з бакамі асабліва моцна і выплятаць асабліва старанна і правілова. Ёсьць розныя спосабы, як плесьці дно, пакажам тут найбольш ужывальныя.

Для дна выбіраюць дубцы моцныя і аднолькавай таўшчыні. Бяруць 8 дубцоў; 4 з іх складваюць разам на падлозе ці на стале, а другія чатыры таксама кладуць зьверху накрыж. У вадзін канец якойнебудзь чацьвёркі дадаюць лішні дубец (мал. 110).

Існуе правіла, што пры пляценьні на аснову трэба браць няцотны лік дубцоў; у іншым выпадку яны ня будуць добра змацаваны і ня будуць



Мал. 110.

трымацца. Калі асноўныя дубцы складзены як паказана, бяруць тонкі гнуткі дубец, адзін канец яго—камель—заціскаюць паміж радоў тоўстых дубцоў, прыкладам, у куту *А*, а вольным канцом абвіваюць зьверху дубцы *Б*, зьнізу—*С*, зьверху—*Д* і зьнізу—*Е*, і далей такім самым спосабам робяць тры поўных звароты, каб дасягнуць поўнага змацаваньня асновы. Пасьля гэтага дубцы пачынаюць рассоўваць, абплятаючы іх тонкім дубцом то зьверху, то зьнізу—кожны па чарзе. Увесь гэты час работу трымаюць у левай руцэ, а правай паступова паварачваюць яе.

Як зробім такім парадкам некалькі поўных зваротаў, то ўбачым, што дубцы разышліся, як павучына; цяпер трэба глядзець, каб яны былі на аднолькавай адлегласьці адзін ад аднаго. Апрача таго, тонкі дубец пры абпляганьні асновін трэба тужэй нацягваць к сярэдзіне, каб пляценьне выходзіла

моцным. Калі тонкі дубец кончыцца або зломіцца— надстаўляюць новы.

Вельмі моцнае дно выходзіць, калі, скрыжаваўшы дубцы так, як было паказана вышэй, змацаваць іх трохі йначай, а іменна (мал. 111): пачаўшы з кута *Е*, шыну, або тонкі дубец, прапушчаюць пад дубцамі *А*, паўзьверх *Б*, пад *В*, паўзьверх *Г*, потым праз кут *Е* нізам да *Д* і зноў поўны зварот: праз *Б* пад *Г*, паўзьверх *А*, пад *Б*, праз кут *Д* і кут *Е* пад *А*, праз кут *З* і кут *Ж* назад у кут *З* і адсюль пачаць рассоўваць дубцы, як зазначана вышэй і паказана на мал. 112.



Мал. 111.

Пакажам, урэшце, на трэці спосаб заплятаньня дна; ён складаецца з наступнага (мал. 113): асноўныя дубцы падзяляюць на 4 роўных пукі, напрыклад, 12 дубцоў—па 3, і крыжуюць іх парамі гэтак, каб у сярэдзіне паміж іх утварыўся квадрат. Каб агульны лік асновін зрабіць няцотным, у вадзін з канцоў скрыжаваных пукоў, напрыклад, у *А*, устаўляюць лішні дубец, потым бяруць шыну або тонкі дубец і, прыкладам, ад *А* пачынаюць абплятаць дно: праз *Б*, пад *В*, праз *Г*, пад *Д*, праз *Е*, пад *Ж*, праз *З*, пад *А*, і гэтым-жа парадкам робяць яшчэ 2-3 звароты. Калі ў апошні раз дойдуць да кута *А*, пачынаюць рассоўваць і абплятаць асновіны, як у папярэдніх двух выпадках.

У першы час пры новым разьмяшчэньні асновы можа паказацца цяжкім рассоўваць дубцы так, каб яны разьмясьціліся зусім аднастайна і на аднолькавай адлегласьці адзін ад другога. Зрабіць гэта досыць цяжка, але палегчыць работу можна вось як. Рассоўваючы адзін ад аднаго дубцы, бяруць іх і абплятаюць перш не па адным, а па два. Абплёўшы кругом, пры няцотным ліку дубцоў, абплятаючы другі раз, разлучаюць па чарзе кожную пару. Абплёўшы гэтак некалькі раз, атрымаем пляценьне вельмі шчыльнае і да таго-ж прыгожае.



Мал. 113.

Калі дно тым ці іншым спосабам зроблена, пачынаюць плесьці бакавую частку кашаля. Дзеля гэтага аснову зусім так, як і ў чатырохкантовым кашалі, асьцярожна, з дапамогаю нажа, выгінаюць пад кутом і становяць старчаком. Дзеля таго, каб кашэль быў больш моцным і аснова лепш трымалася, плятуць адну ці дзьве вяровачкі з двух або з трох дубцоў. Пасьля гэтага пачынаюць выплятаць бакавую сьценку кашаля жгутком або ў шашку, у адзін ці два дубчыкі, як гэта робяць, калі выплятаюць кашэль-куфар. Там, дзе гэта трэба або падабаецца майстру, плятуць вяровачкі. Каб аснова ў час работы не перашкаджала працаваць, на яе надзяваюць круглы прымернік, роўны верхняму кругу кашаля. Для таго, каб стойкі

асновы стаялі больш роўна і ўсё пляценьне ішло больш правілова, у сярэдзіну кашаля стаўляюць модэль—калодку, якая мае форму кашаля,—тады прымернік непатрэбен. Лепш усё-ж такі прывыкаць плесьці бяз модэлі.

Плятуць кашэль або на нахіленай дошцы, або на стале, а некаторыя кладуць работу бокам на калені, дном да сябе,—робяць, як каму зручней. Калі бакавая паверхня кашаля будзе сплецена да патрэбнай вышыні, зноў плятуць вяровачку, а за ёю з канцоў асновы—бераг. Бераг круглых і асабліва ручных кашалёў можна рабіць парознаму; для тых, хто толькі пачаў вучыцца, лягчэй за ўсё скончыць кашэль рашоткай. Гэта робіцца так (мал. 114): адну з стоек асновы, напрыклад *А*, заводзяць за стойку *Б* і загінаюць уніз і туту *а*, вяршкох у 2-3 ад берагу, яго абразаюць, потым асьцярожна згінаюць і канцом накіроўваюць у пляценьне ўдоўж стойкі *В*. Стойку *Б* заводзяць за *В* і накіроўваюць у пляценьне ўздоўж *Г* і гэтак робяць з кожнай наступнай стойкай. Каб асновіны лягчэй увыходзілі ў пляценьне, можна зьлёгка яго рассоўваць, для чаго туды трэба запускаць адпаведнай даўжыні калок ці палачку. Можна скончыць кашэль такім самым берагам-загінкай, якім скончылі мы вечка кашаля-куфара. Калі патрэбна, да верхняга берагу кашаля ці да бакоў яго дарабляюць



Мал. 114.

ручкі. Аб ручках мы шмат гаварыць ня будзем. Малюнкі 109 і 115 ясна паказваюць самы просты спосаб, як рабіць ручкі і прымацоўваць іх да берагу кашаля. Зразумела, ёсьць розныя спосабы, але



Мал. 115.

апісаць іх усе цяжка. Лепш за ўсё прыглядацца да гатовых кашалёў добрых майстроў і скеміць у чым справа. А яшчэ лепш зайсьці да добрага майстра і паглядзець, як ён робіць і прымацоўвае ручкі. Калі работа круглага кашаля скончана, у ім абразаюць канцы дубцоў, прасушваюць, беляць серкай для лепшага выгляду і пушчаюць у продаж.

**Пляценьне паўкруглых кашалёў.** Паўкруглы кашэль плятуць зусім таксама, як і круглы, дзеля таго шмат гаварыць аб пляценьні паўкруглых кашалёў—значыла-б зноў казаць тое самае. Уся розьніца паміж імі толькі ў дне. Аб пляценьні яго мы і скажам некалькі слоў. Дно паўкруглага кашаля плятуць так: бяруць тры дубцы *АБ* (мал. 116). такой самай даўжыні, як і дно кашаля, на іх кладуць накрыж два папярочных дубцы *ВГ*, даў-

жыня якіх роўная шырыні дна кашаля; на адлегласьці паловы даўжыні гэтых дубцоў ад *А*, іх накрыж перавязваюць, як паказана на мал. 116, тонкай шынай, камышом або тонкім круглым дубцом;



Мал. 116.

тым самым канцом разы два-тры шчыльна абвіваюць удоўжныя дубцы; кладуць папярочны дубец накрыж, абвіваюць яго, а потым удоўжныя дубцы, як раней, зноў папярочны дубец і г. д. На такой самай адлегласьці ад *Б*, як і ад *А*, кладуць і накрыж прымацоўваюць апошнюю пару папярочных дубцоў, пасьля чаго канцовыя дубцы *Б* і папярочныя *ВГ* рассоўваюць, як гэта паказана на другім канцы асновы дна (мал. 117), і канцом перавязкі *Д* дубцы пачынаюць абплятаць, як абплятаюць аснову круглых кашалёў, пакуль усё дно ня будзе сплецена. Пасьля гэтага яго выроўніваюць, выпростваюць краі, абстрыгаюць нажніцамі незаплеценыя рэшткі асновін. Калі дно гатова, яго абасноўваюць бакавымі стойкамі-рэбрамі і ў звычайным парадку плятуць кашэль да канца. Калі кашэль хочуць сплесьці з доўгага матар'ялу, напр. з ротанга, з пэдыга і г. д., то на дно бяруць дубцы такой даўжыні, каб іх хапіла ня толькі на дно, а і на бакавыя стойкі-рэбры, і канцоў каб хапіла яшчэ на апошні берагшляк.

**Дзіцячыя каламашкі і каламашачкі пад лялькі.** Выраб дзіцячых каламашак (малюнкі 118, 119) і ка-




Мал. 117.

ламашачак пад лялькі складае зусім асобную галіну кашэльнай вытворчасьці. Гэтым вырабам мо-



Мал. 118.

гуць займацца жыхары цэльных сёл і вёсак: адны могуць вырабляць плеценыя часткі каламашкі—кош (кузов) яе, другія—дзеравяныя часткі—донцы,

сядзеньні, восі, колы і г. д., трэція будуць рабіць сьлясарна-кавальскія работы -колы, рэсоры, жалезныя восі і інш., а чацьвертыя могуць займацца



Мал. 119.

зборкай гатовых вырабаў з частак, якія робяць усе першыя. Як рабіць плеценыя часткі, мы гаварыць ня будзем дзеля таго, што асноўныя спосабы пляценьня ўсякіх кашалёў намі паказаны вышэй, а з усякімі асаблівасьцямі лепш за ўсё пазнаёміцца на практыцы, на рабоце добрага майстра. Скажам толькі, што дзіцячыя каламашкі і каламашачкі пад лялькі плятуць гэтак сама, як і ўсякія паўкруглыя кашалі. Асаблівасьць можа быць толькі ў пабудове дна і пастаноўцы на ім асновы. У дзіцячых каламашках і ў каламашачках дно можа быць плеценае, як у паўкруглых кашалёх, а можа быць і дзеравянае, зьбітае з дошчак патрэбнай таўшчыні. Калі каламашка будзе мець дзеравянае дно, тады, зразумела, і аснову на ім прыдзецца ставіць інакш. А іменна: з дошак у $1/2$-$3/4$ цалі таўшчыні і патрэбнай даўжыні зьбіваюць дно належнай шы-

рыні; на вока або на прымерніку рысуюць на ім паўкруглую форму і выпільваюць паўкруглае дно (мал. 120). Кругом, уздоўж края пракручваюць



Мал. 120.

наскрозь дзіркі такой шырыні, каб у іх шчыльна маглі ўваходзіць дубцы асновы, і з такім нахілам к знадворнаму боку, які развал хочуць даць бакавым сьценкам каламашкі. У гэтыя дзіркі ўстаўляюць аснову так, каб канцы яе выходзілі спадыспаду на 1½—2 вяршкі. З гэтых канцоў плятуць вяровачку, або мясцох у трох (у якім-небудзь канцы і па бакох) бяруць канец якога-небудзь дубца, абгінаюць ім дошку, закладваюць за тую частку, што знаходзіцца над дошкай і заплятаюць яго вяровачкай з самым сабой і гэтым як-бы зьвязваюць аснову з дном. Пасьля гэтага плятуць бакі каламашкі, як звычайны паўкруглы кашэль.

У каламашачках пад лялькі можна ўстанаўляць аснову іншым спосабам (мал. 121): бяруць дзьве моцных шыны-палавінкі, адным канцом іх злучаюць і цьвічкамі прыбіваюць знадворку да края дна. Бяруць трэцюю тонкую, але моцную шыну, адзін



Мал. 121.

канец яе заціскаюць паміж двух першых і тонкай шынай адзін-два разы абплятаюць іх. Потым паміж першай парай шын устаўляюць дубец асновы, тонкай шынай абплятаюць яго і два-тры разы за ім тую пару шын, што яго заціснулі. Устаўляюць новы

дубец асновы і таксама абплятаюць яго, а за ім і шыны. Час-ад-часу шыны і аснову, якая ўплецена ў іх, цьвічкамі прыбіваюць да знадворнага боку дна. Гэтак робяць і далей, аж пакуль ня будзе абаснована ўсё дно. Пад шынамі, якія абплецены й прыбіты, да ніжніх канцоў асновы можна дабавіць яшчэ адну шыну-палавінку, а пасьля яе—сплясьці вяровачку; але гэта залежыць ужо ад жаданьня і ад густу майстра. Можна-ж абыйсьціся і бяз іх,—тады канцы асновы абразаюць каля самай сподняй паверхні дна. Далей пойдзе звычайнае пляценьне паўкруглага кашаля.

Калі кош дзіцячай каламашкі будзе скончаны, зьверху робяць шляк трохі йначай, як паказвалі мы раней, а іменна (мал. 122): няхай *а, б, в, г, д, е, ж, з, і, к* будуць канцы асновы. Устаўляем пяць пар дубцоў: 1 пару паміж *а* і *б* камлямі ад сябе; 2 пару—камлямі да сябе—паміж *б* і *в*; 3 пару—на 2 пару, але камлямі ад сябе; 4 пару—паміж *в* і *г*, камлямі да сябе; пару 5—на пару 4, але камлямі ад сябе. Затым пачынаюць плесьці: пару 1 заводзяць сьпераду *б, в* і *г* і паміж *г* і *д*; пару 2—ззаду *в* і *г* і паміж *г* і *д*, а побач згінаюць і кладуць стойку *г*; пару 3—сьпераду *в, г* і *д* і паміж *д* і *е*; пару 4—ззаду *г* і *д* і паміж *д* і *е*, а побач—стойку *д;* пару 5—сьпераду *г, д* і *е* і паміж *е* і *ж*. Пяць пар, якія мы былі ўставілі, мы ўплялі,—утварыліся і будуць утварацца новыя канцы ад дадаваньня пазгінатых асновін. Пляцем далей новымі канцамі: канцы 1 абводзім ззаду міма *д* і *е* і паміж *е* і *ж*, а побач—стойку *е*; з траяка 2+*г* бярэм *г* і адзін суседні (на малюнку—чорны) дубец з пары 2 і абводзім іх сьпераду *д, е* і *ж*

і паміж *ж* і *з*; канцы 3—ззаду *е* і *ж* і паміж *ж* і *з*, побач—стойку *е*; з траяка *д*+4 бярэм *д* і адзін дубец



Мал. 122.

з пары 4 і абводзім іх сьпераду *е*, *ж* і *з* і паміж *з* і *і* і г. д., пакуль ня скончым увесь шляк. Калі ўвесь кош каламашкі будзе гатоў, у ім абразаюць усе непатрэбныя канцы дубцоў, выроўніваюць яго і стаўляюць на рэсоры і на панарад. Лепш стаўляць каламашкі на колы, якія маюць вялікую акружыну, бо такія колы даюць каламашцы больш супакойны ход, чым малыя колы. Потым трэба памятаць, што

добрыя, лёгкія дзеравяныя колы куды карысьней і лепш за мэталёвыя—жалезныя або сталёвыя, бо мэталёвыя колы вельмі спружыняць; гэтае лёгкае дрыжэньне ўвесь час перадаецца дзіцяці і шкодзіць мазгам яго; калі каламашка мае добрыя рэсоры з ангельскай вальцовай спружынавай сталі і дзеравяныя колы,—гэтага дрыжэньня няма. І ўсё-ж такі ў Расіі каламашкі з дзеравянымі коламі куплялі мала. Гэта залежала ад таго, што колы да іх рабіліся дрэнныя: складаныя з некалькіх частак і да таго-ж часта з сырога, нямоцнага дрэва. Зразумела, што такія колы насохшы раскідаліся. Добрае кола павінна быць лёгкім і моцным з зусім сухога бука ці ясеня. Вобад кола ні ў якім разе не павінен быць складзеным з некалькіх кавалкаў, а павінен быць зроблен з аднаго цэльнага кавалку, які згінаецца ў круг пры дапамозе пары. Сьпіцы павінны быць тонкія, вытачаныя таксама з сухога бука ці ясеня. Жалезная шына павінна быць ня з простага абручовага жалеза ў 1/16 цалі таўшчынёй, як гэта часта робяць, а з добрага шынавога жалеза таўшчынёю ў 1/8 цалі. Шыну трэба нацяграць на дзеравяны вобад кола не халоднай, а гарачай, як гэта робяць на колах добрых экіпажаў. Ніжняя частка станка павінна быць выкавана з лепшага вальцовага жалеза, рэсоры і іншыя спружыны каламашкі—з лепшай вальцовай сталі. Каламашка, якая зроблена паводле гэтых паказаньняў, доўга ня будзе ляжаць у майстра. Каламашкі больш дарагія робяць з адкідным верхам. Рэбры адкіднога верху згінаюць з тоўстых вярбовых дубцоў, а ў самых дарагіх каламашках—з бука ці ясеня. Падобныя на дугу рэбры адкід-

нога верху каламашкі маюць на канцох жалезныя петлі, якімі з абодвух бакоў каламашкі надзяваюць іх на асобныя жалезныя штыфты, каторыя служаць восьсю для гэтых рэбраў і дазваляюць ім хадзіць узад і ўперад. Рэбры зьверху абцягваюць цыратаю або якой-небудзь матэрыяй; гэта ўжо справа жанчын пад кіраўніцтвам добрага аббіўшчыка.

**Выраб плеценай мэблі.** Пры вырабе плеценай мэблі самае важнае—гэта ўмельства карыстацца вярбовымі і ўсякімі іншымі палкамі, якія прыдатны для мэблі, умельства зрабіць касьцяк (остаў) мэблі і абплясьці яго. Палкі трэба будзе прастаць. Гэта кашыкар ужо рабіў, калі рыхтаваў матар'ял для прымернікаў, асновы дна і кутніх стоек чатырохкантовых кашалёў. Палкі і дубцы трэба будзе згінаць розным спосабам; і гэта рабіў кашэльнік, калі рыхтаваў прымернікі для круглых і паўкруглых кашалёў. Згінаць дубцы і палкі можна або пры дапамозе жамкі, або калі абвіваць іх укола розных форм: палкі, круга і іншых фігурных прылад. Пры пляценьні кашалёў асабліва паўкруглых, прыходзілася абвіваць і абвязваць дубцы шынай, прыходзілася зьбіваць часьці (там, дзе ў каламашачках пад лялькі аснова зьвязвалася з кашом) цьвікамі. З рознастайным пляценьнем мы таксама пазнаёміліся. Усе гэтыя работы цалком прыходзіцца ўжываць пры вырабе плеценай мэблі. Значыцца, хто навучыўся плесьці кашалі, той здолее зрабіць і простую плеценую мэблю: столік, табурэтку, лаўку і інш. А хто ўмее зрабіць простую мэблю, таму ня цяжка навучыцца плесьці, паводле ўзораў і малюнкаў, і якую хочаш. Як і якую рабіць мэблю, дзе, што і як прымацоўваць, дарабляць,—

гэтага ні ў якай кніжцы апісаць немагчыма; гэтаму можна навучыцца толькі з практыкі і пагляданьняў за работай добрых майстроў. Тут мы дамо толькі некаторыя патрэбныя рады. Напрыклад, можна параіць вось што: дзеля таго, каб прызвычаіцца рабіць увязку, скрэпы, вузлы, абпляценьні, выгінаць палкі, дубцы ці матар'ялы, якія іх заступаюць, — карысна паглядзець, як усё гэта робяць іншыя. Затым самому парабіць, але ня мэблю, а раней простыя, а потым, паводле ўзораў і малюнкаў, больш цяжкія па вырабу шырмы (гл. мал. 51, 52, 53, 123, 124). На шырмах усе работы, якія мы толькі што заўважылі, відаць найлепш, і тут лягчэй скеміць дзе, што і як лепш за ўсё абвязаць, абплесьці, змацаваць шрубай або цьвіком,—а ўсё гэта будзе вельмі карысна потым, пры вырабе мэблі. Тут мы да рэчы адзначым, што на шырмы, апрача вярбовых дубцоў і палак, ужываюцца яшчэ дзеравяныя брускі, камыш і бамбук. Трэба прывыкнуць самому меркаваць, дзе


Мал. 123.

які матар'ял лепш за ўсё ўжываць. Пры гэтым трэба памятаць, што камыш і бамбук можна згінаць толькі на агні—на сьпірытусовай і газавай лямпе, а ў крайнім выпадку—на сьвечцы.



Мал. 124.

Цяпер зазначым, якія недахваты можа мець мэбля, што яе псуе і чаго трэба ўнікаць пры вырабе яе. Простая, танная і да таго-ж няўмела зробленая мэбля дрэнная тым, што заўсёды мае шмат усякіх зьвязак, якія скора рассыхаюцца, і мэбля пачынае хістацца. Апрача таго, у ёй заўсёды бывае шмат дробных цьвікоў, якія ў сырым матар'яле хутка ржавеюць і больш ужо ня трымаюць. Вярба можа хутка сырэць і хутка-ж высыхаць; пры частым высыханьні такой адсырэўшай вярбы, цьвікі вытыркаюць з мэблі і дзяруць адзежу. Калі рабіць мэблю з умельствам, гэтых недахватаў ня будзе, і тавар будзе каштаваць у продажы значна даражэй. Добрыя майстры калі выраўляюць мэблю, то бяруць ня цьвікі, а шрубы. Мэбля на шрубах каштуе сабе нікольні не даражэй, чымся на цьвікох, а між тым яна куды больш моцная, лёгкая і прыгожая. І ўсё-ж такі мэблю робяць часьцей не на шрубах, а на цьвікох. Прычына простая: каб змацняць часткі мэблі шрубамі, трэба мець шмат вед і добра разумець справу; тут прыходзіцца абмяркоўваць, у якім месцы і якое змацненьне будзе і

найбольш карысным і мэтазгодным, патрэбным. Для вучанага, спрактыкаванага майстра сьцяміць усё гэта вельмі лёгка, а неспрактыкаваны майстар меркаваць яшчэ ня прывык, і для яго нічога ня значыць увагнаць лішні тузін цьвікоў нават туды, дзе яны зусім непатрэбны. Таварам, які вельмі лёгка прадаць, на які ёсьць вялікі попыт, зьяўляецца дзіцячая мэбля і асабліва дзіцячыя ложкі.

**Мастацкія вырабы,** г. ё. вырабы, якія служаць убраньнем для памяшканьняў і садоў, выгадна рабіць дзеля таго, што за хараство і прыгожасьць яны цэняцца даражэй,чымся вырабы простага пляценьня. Мы ўжо раней казалі, што апісаць усе пляценьні немагчыма дзеля таго, што іх надзвычайна многа і ўвесь час выдумляюцца яшчэ новыя. Дрэнны той саматужнік, які будзе рабіць толькі тое, чаму яго навучаць або што ён здолее пераняць у іншых, а сам нічога прыдумаць ня можа. Тады яму не зарабіць ніколі гэтулькі, як дасьціпнаму майстру. Зусім іншая справа, калі майстар сам умее прыдумаць што-небудзь новае: тут упляце лішні ўзор, тут інакш спляце,—і выходзіць такая рэч, якой ніхто яшчэ не рабіў, а на ўсякую навіну заўсёды ёсьць попыт; тавар прадаецца так, што пасьпявай толькі рабіць. Зразумела, што кожнаму кашыкару патрэбны і ўзоры розных кашалёў. Узоры гэтыя звычайна друкуюць у каталёгах; каталёгі выдаюць сябрыні (арцелі) і таварыствы саматужнікаў-кашыкароў. Самым вядомым з такіх таварыстваў зьяўляецца Вяземскае складачнае саматужнае таварыства (адрас: ст. Галіцына, Маск. губ. і павету). У гэтым т-ве можна атрымаць і вялізны каталёг самых featureнастайных ка-

шэльных вырабаў. Апрача разгляданьня каталёгаў, саматужнік-кашыкар павінен хадзіць на ўсякія выстаўкі і ў склады кашэльных вырабаў, знаёміцца і раіцца з вядомымі і спрактыкаванымі саматужнікамі-кашыкарамі і вывучаць кашэльнае рамяство ўсялякімі іншымі спосабамі.

**Пабелка кашэльнага матар'ялу і гатовых вырабаў.** Хаця вярбовы матар'ял, асабліва веснавой нарыхтоўкі, сам па сабе мае белы колер, але для таго, каб кашэльным вырабам надаць яскрава-белы колер, іх яшчэ штучна беляць. Беляць ня толькі гатовыя вырабы, але й матар'ял, з якога іх робяць (далучаючы сюды і салому). Пабелка адбываецца гэтак: робяць спэцыяльную шафу або скрыню, якая шчыльна зьбіта з тоўстых дошак. Скрыню робяць такой велічыні, каб у ёй можна было за раз зьмясьціць досыць вырабаў або матар'ялаў. З боку шафа мае дзьверцы або, замест дзьверац, зьверху— шчыльна прыгнаную пакрышку. Усе шчыліны ў шафе замазваюць і заклейваюць паперай. Часам замест шафы капаюць у зямлі патрэбнай глыбіні, даўжыні і шырыні яму; у сярэдзіне бакі яе абшываюць дошкамі,з боку пакідаюць ход з дзьвярыма,якія шчыльна зачыняюцца; зьверху насьцілаюць столь і засыпаюць яе зямлёй. Дробныя вырабы можна бяліць нават ў якой-небудзь досыць вялікай бочцы, якую ўкопваюць у зямлю і зьверху шчыльна накрываюць. Пабелку, асабліва серкай, трэба рабіць чым далей ад жылых памяшканьняў дзеля таго, што пара серкі шкодная для здароўя. Рэчы, якія прызначаны для пабелкі, ня кідаюць, як прыдзецца, а вешаюць, каб яны не датыкаліся ні да бакоў, ні да дна

такой бялільні, бо ў гэтых мясцох пара добра не дастане, і на рэчах застануцца плямы. Калі рэчы ўжо разьмешчаны, бяруць скрыначку з бляхі або старую непатрэбную бляшаную міску, кладуць у яе кавалкі серкі, стаўляюць на дно бялільні на цагліну або камень і серку падпальваюць. Калі яна разгарыцца як сьлед, бялільню шчыльна зачыняюць і пакідаюць гадзін на пяць-шэсьць, пасьля чаго пабелку можна лічыць скончанай і рэчы дастаюць зусім белыя. Больш выгадна замест серкі ўжываць серкавую кісьлю, разбаўленую вадой. Гэтую ваду з серкавай кісьлёй наліваюць у няглыбокую пасудзіну і стаўляюць на дно бялільні; серкавая кісьля вылучаецца з вады і беліць. Пабелку робяць яшчэ з дапамогай хлёрнага газу. Для гэтага бяруць адну частку (на вагу) хлёрнай вапны, рашчыняюць яе ў 15 частках вады, якая закісьлена серкавай кісьлёй. З гэтай рашчыны будзе вылучацца хлёрны газ; ён зойме ўсю бялільню і будзе бяліць тыя рэчы, якія там зьмешчаны. Каб атрымаць добры белы тавар, трэба перш бяліць матар'ялы (дубцы і шыны), а ўжо потым—вырабы з іх.

**Ахварбоўка кашэльнага мата'рялу.** Хварбуюць кашэльны матар'ял у патрэбныя колеры заўсёды перад пляценьнем. Хварб, якія прыдатны для ахварбоўкі дубцоў, шын, саломы і іншага кашэльнага матар'ялу, вельмі шмат, але мы пакажам тут толькі на тыя, якія больш усяго ўжываюцца, і прыгатаваць якія каштуе параўнаўча нядорога.

Ахварбоўка ў *чорны колер:* дубцы і шыны перш цэлую гадзіну гатуюць у рашчыне з 100 грамаў салёна-кваснага аніліну, 5 грамаў мядзянага

хлёрыду і 1½ кілёграмаў вады; затым матар'ял дастаюць, добра сушаць і зноў гатуюць паўгадзіны ў рашчыне з 100 грамаў двухромо-кваснага калі з 3 кілёграмамі вады. Другі спосаб: 250 грамаў лазуравага дрэва (кампешавае дрэва) з 15 грамамі галуна (квасцоў) і 1½ кілёграмамі вады моцна гатуюць; потым гэтую жыжку працэжваюць, кладуць у яе матар'ял і гатуюць яго ад двух да шасьці гадзін, у залежнасьці ад таўшчыні дубцоў. Затым матар'ял дастаюць, добра высушваюць і зноў гатуюць чатыры-шэсьць гадзін у рашчыне з 150 грамаў жалезнага купарвасу з 1½ кілёграмамі вады. Надзвычайна прыгожы чорны колер набывае матар'ял, калі яго пасьля гатаваньня ў рашчыне лазуравага дрэва і прасушкі пагатаваць яшчэ чатыры-шэсьць гадзін у рашчыне з 130 грамаў мядзянага купарвасу з двума кілёграмамі вады або ў рашчыне з 200 грамаў двухромо-кіслага калі з 3 кілёграмамі вады.

*Шэра-цынамонавы колер:* 300 грамаў сапраўднай касэльскай цынамонавай хварбы гатуюць з 100 грамамі поташу ў 2 кілёграмах вады; гэтую рашчыну працэжваюць на тонкае палатно і кладуць у яе дубцы і шыны на дзьве-шэсьць гадзін. Ахварбаваны гэтак матар'ял набывае цьмяны шэра-цынамонавы колер, а калі яго навашчыць або палякіраваць—жывы цёмна-цынамонавы колер.

*Жоўты колер:* 200 грамаў бэнгальскай куркумы з 15 грамамі галуна ў адным кілёграме вады гатуюць некалькі гадзін, пакуль рашчына ня будзе досыць моцнай; затым яе працэжваюць на тонкае палатно, даюць яшчэ раз загатавацца, і гадзіны на

дзьве на тры кладуць у яе прызначаныя для ахварбоўкі дубцы і шыны.

**Увага:** Адзін кілёграм складаюць 1.000 грамаў, ці на расійскія меркі $2^1/_2$ фунта. Калі кажуць пра ваду, то маюць на ўвазе рэчную або дажджавую мяккую ваду.

Паказаныя рашчыны для ахварбоўкі вельмі добра прыстаюць і доўга трымаюцца на ахварбаваным матар'яле. Але для больш лепшай ахварбоўкі вярбовыя дубцы і шыны загадзя трэба вымачваць у лугу (шчолаку), тады хварба яшчэ лепей будзе да іх прыставаць.

Такі луг робяць гэтак: бяруць добрую, нядаўна абпаленую вапну, паліваюць яе патрошку цёплай вадой, аж пакуль яна ня зробіцца зусім гашанай і не рассыпецца ў тонкі парашок. Затым дадаюць да яе чыстай рэчнай або дажджавой вады ад 15 да 17 частак (на вагу) на адну частку вапны, як сьлед усё мяшаюць і даюць рашчыне адстоіцца, пакуль вапна зусім не абсядзе на дно. Тады чыстую вапенную ваду асьцярожна зьліваюць і на $^1/_2$—6 гадзін, у залежнасьці ад таўшчыні матар'ялу, кладуць у яе дубцы і шыны, потым у гарачым месцы матар'ял прасушваюць. Як ужо было зазначана, пасьля такой папярэдняй апрацоўкі асабліва добра бярэцца за матар'ял хварба.

Ва ўсякі іншы колер, апрача вышэй-памянёных, лягчэй і куды таней ахварбоўваць матар'ял анілінавымі хварбамі. Пры гэтым няма патрэбы загадзя выраблять матар'ял вапеннай вадой. Замест вапеннай вады, перад ахварбоўкай анілінавымі хварбамі ўсё-ж такі добра дубцы і шыны на гадзіну ці дзьве

палажыць ў пасудзіну з рашчынаю з 100 грамаў марсэльскага мыла ў 4 кілёграмах чыстай рэчнай або дажджавой вады. Гэтую мыльную рашчыну, раней чым класьці ў яе дубцы і шыны, гатуюць і бесьперастанку мяшаюць, пакуль усё мыла не разойдзецца ў вадзе. Дастаўшы з рашчыны дубцы і шыны, іх моцна прасушваюць у гарачым месцы і тады ўжо хварбуюць анілінавымі хварбамі. Трэба браць тыя хварбы, якія распускаюцца ў вадзе моцна нагрэтай. Гэтыя хварбы разьмешваюць у мяккай чыстай вадзе, кладуць у рашчыну дубцы і шыны, салому і іншыя матар'ялы і трымаюць, пакуль яны не набудуць патрэбнага колеру. Калі трэба ўжыць хварбы, распушчаныя толькі ў сьпірытусе, то бяруць трошкі сьпірытусу, распушчаюць у ім хварбу, а потым ужо гэтую рашчыну разводзяць гарачаю вадой, наколькі гэта трэба. Усякія матар'ялы для ахварбоўкі і асабліва анілінавыя хварбы трэба купляць ня ў прыватных крамах, дзе часта пад расійскімі назвамі прадаецца зусім ня тое, што трэба, а выпісваць з вядомых складаў аптэкарскіх тавараў з Ленінграду, Масквы, Кіева, Адэсы, Харкава і г. д. Але там яны маюць не расійскія, а францускія і нямецкія назвы; іх можа сьпісаць пры заказах усякі пісьменны чалавек. Дзеля таго, апісваючы хварбы, мы будзем называць іх чужаземнымі назвамі.

*Чырвоныя колеры:* далікатны сьветла-чырвоны—50 грамаў Eosin на чатыры кілёграмы вады; цёмна-чырвоны—120 грамаў Aurore на чатыры кілёграмы вады; пунсовы—120 грамаў Ponceau на 4 кілёграмы вады; ружовы—120 грамаў Rose bengale на 4 кілёграмы вады; багравы

(к а р м і н а в ы)—120 грамаў Rouge cochenille на 4 кілёграмы вады; к а р а л е в ы —120 гр. Coraleine на 4 кілёграмы вады; с і н я в а т а - ч ы р в о н ы—120 гр. фуксыну на 4 кілёграмы вады; в і ш н ё в ы—150 гр. Cerise bleuâtre на $3^{1}/_{2}$ кілёграмы вады.

*Фіялетавыя колеры:* с ь в е т л а - ф і я л е т а в ы—150 грам. Methylviolette на 4 кілёграмы вады; ц ё м н а - ф і я л е т а в ы—150 грам. Methylviolette на 3 кілёграмы вады; ч ы р в о н а - ф і я л е т а в ы—150 грам. Methylviolette і 30 грам. фуксыну на 4 кілёграмы вады; с і н я в а т а - ф і я л е т а в ы—150 грам. Methylviolette і 30 грам Bleu de lumière на 3 кілёграмы вады.

*Жоўтыя колеры:* ч ы с т а - ж о ў т ы—100 грам. Naphthalingelb на 4 кілёграмы вады; ш а ф р а н а в ы—180 грам. Saffranin на 3 кілёграмы вады; ц ё м н а - ж о ў т ы—150 грам. Xanthinnin на 4 кілёграмы вады; д р у г і ц ё м н а - ж о ў т ы—180 грам. Phosphine на 3 кілёграмы вады; п а м а р а н ц а в ы (а р а н ж а в ы)—150 грам. Orange на 4 кілёграмы вады; ч ы р в о н а - ж о ў т ы—200 грам. Orange і 50 грам Fuchsin на 5 кілёграмаў вады.

*Цынамонавыя колеры:* б і с м а р к а в ы к о л е р—150 грам Bismarck на 4 кілёграмы вады; ч ы р в о н а - ц ы н а м о н а в ы—150 грам Vesuvine на 4 кілёграмы к а ш т а н а в ы—180 грам. Marron на 4 клгр. вады.

*Зялёныя колеры:* с ь в е т л а - з я л ё н ы—150 грам. Methylgrün на 3 кілёгр. вады; ц е м н а - з я л ё н ы—150 грам. Methylgrün і 30 грам. Bleu de lumière на 4 кілёграмы вады; м а л я х і т а в ы—150 грам. Malachitgrün на 3 кілёгр. вады; с ь в е т л а я - л і с ь ц е в а я з е л е н ь—150 грам. Malachitgrün і 30 грам.

Naphthalingelb на 4 кілёграмы вады; другога адценьня—180 грамаў Malachitgrün і 30 грам. Naphthalingelb на 4 кілёграмы вады; цёмна-лісьцевая зелень—150 грамаў Malachitgrün і 30 грам. Bleue de lumière на 3 кілёграмы вады; або 190 грам. Malachitgrün і 40 грам Bleu de ciel на 3 клгр. вады.

*Шэрыя колеры:* сінявата-шэры—150 грам. Gris bleu на 3½ кілёгр. вады; чыста-шэры—140 грам. Gris на 3 кілёграмы вады; жалезіста-шэры—200 гр. Gris rouge на 3½ клгр. вады; жаўтавата-шэры—150 гр. Gris jaune на 3 кгр. вады.

Шмат якія з кашэльных вырабаў, напр., мэбля, ахварбоўваюцца не анілінавай, а масьлянай і нават эмалевай хварбай. Калі хочуць ахварбаваць вырабы масьлянай хварбай, іх перш алівяць, г. ё. пакрываюць гатаваным канапляным маслам (пакостам), потым грунтуюць, г. ё. пакрываюць рэдкай хварбай дзеля таго, каб матар'ял нацягнуў у сябе масла і болей ня браў яго з хварбы. Кожны раз вырабам даюць добра высахнуць. Калі вырабы высахнуць, іх, з дапамогаю шчаціннага пэндзаля сярэдняй цьвёрдасьці, хварбуюць сапраўднай хварбай, наглядаючы, каб яна заходзіла ва ўсе шчыліны пляценьня, інакш застануцца белыя плямы, і рэч будзе сапсована. Хварбы можна купляць у парашкох і потым самому расьціраць і прырыхтоўваць іх; але самае лепшае купляць гатовыя хварбы і разводзіць іх, калі будзе трэба, пакостам.

Эмалевыя хварбы купляюць гатовымі. Імі хварбуюць, як і масьлянай хварбай, але толькі адзін раз. Калі хварба пачне гусьцець, яе разводзяць шкіпідарам.

**Лякіроўка гатовых вырабаў.** Каб зрабіць кашэльныя вырабы больш прыгожымі на выгляд і тым павялічыць іх цану, іх ня толькі хварбуюць, але й лякіруюць. На жаль, кашыкары пры гэтым, ня ведаючы якасьцяй добрага ляку, робяць шмат абмылак і несьвядома псуюць свае вырабы і тым зьніжаюць цану на іх. Напрыклад, яны ўжываюць зусім няпрыдатныя для работы домаровыя і копалавыя лякі, у каторых копалу няма і кроплі. Хоць яны спачатку і надаюць вырабам некаторы глянец, але ніколі ня высыхаюць і бяруцца за цёплую руку, што, зразумела, памяншае каштоўнасьць тавару. Некаторыя майстры любяць самі рабіць лякі. Гэтага ніколі ня варта рабіць вось чаму: лепш як завод—ня зробіш, і заводзкія лякі заўсёды будуць лепш самадзельных; самадзельныя лякі ніколькі не таней за куплёныя, а то нават абойдуцца й даражэй за іх; да таго-ж рабіць лякі самому небясьпечна,—можна лёгка зрабіць пажар.

Лякіроўка сьпірытусовым лякам робіцца гэтак: наліваюць трошкі ляку ў невялічкую чыстую пасудзіну, бяруць пэндзаль з ня вельмі цьвёрдай шчаціны, макаюць у ляк на палову даўжыні яго, праводзяць па краі пасудзіны, каб у пэндзлі ня было залішня ляку, і наводзяць ляк на пляценьне, наглядаючы, каб пэндзаль заходзіў ва ўсе шчыліны; таксама трэба старацца не праводзіць лякам па адным і тым-жа месцы некалькі раз, бо тады ляк будзе разыходзіцца па паверхні няроўна. Пры лякіроўцы копалавым лякам ужываюць пэндзаль трошкі мякчэйшы, а далей усё робяць так, як толькі што казалі. Лякіраваную рэч абавязкова трэба вельмі

добра прасушыць, для чаго яе стаўляюць у сухое месца, дзе пажадана, каб ня было пылу. Калі ляк не засохне зусім, і лякірованая рэч пападзе ў сырое паветра, яна пакрываецца белым налётам, які псуе ўвесь выгляд тавару. Паправіць гэтага нельга, і тавар будзе сапсованы.

Дзеля таго, каб рэчы ня ўцягвалі ў сябе ляку і мелі большы глянец, загадзя іх карысна пакрываць гарачай белай клеевай рашчынай. Калі хочуць лякам пакрыць рэч у другі раз, то гэта робяць не раней, як падсохне ляк ад першай лякіроўкі.

**Пазалота й пасрэбраньне кашэльных вырабаў.** Некаторыя, найбольш мастацкія кашэльныя вырабы залоцяць і, радзей, пасрэбрываюць. Залаціць больш мэтазгодна па масьляной падрыхтоўцы. Гэта робіцца так: каб зрабіць рэч зусім гладкай, яе шліфуюць, потым пакрываюць перш сьвінцовымі бялілами, якія добра сьцёрты з масьляным лякам, даюць высахнуць на паветры і шпаклююць усякія выпадковыя шчыліны і дзіркі масьлянай замазкай, якая зроблена з масьлянага ляку і глету ці вохры. Калі хочуць, каб пазалота вышла больш далікатнай і бліскучай, накладваюць больш слаёў хварбы, прычым даюць кожны раз папярэднему слою добра высахнуць. Пасьля гэтага рэч у тым месцы, дзе ляжа пазалота, старанна шліфуюць, каб зрабіць паверхню зусім гладкай. Грунтоўку шліфуюць так: бяруць кавалачак мяккага лямцу, зьлёгка змочваюць яго вадой, макаюць у парашок пемзы або ласінага рогу і перш лёгка, а потым мацней націраюць паверхню, якую хочуць адшліфаваць. Каб зрабіць яе зусім гладкай, пасьля шліфоўкі пакрываюць новым

слоем грунтовай хварбы і шліфуюць яшчэ раз тонкім, як мука, парашком пемзы ці ласінага рогу. Пасьля гэтага шліфаваную паверхню праціраюць мокрай анучкай або намочанай губкай, а потым насуха—палатном. Калі хочуць на масьлянай грунтоўцы зрабіць такую пазалоту, якая мела-б такі бляск, як паліраванае золата, то добра адшліфаваную грунтоўку перад пазалотай пакрываюць тры-чатыры разы масьляным ці сьпірытусовым копалавым лякам. Калі ляк ня зусім чысты, то яго прапушчаюць праз прамакатку. У час работы ляк трымаюць у невялічкім шкляным слоіку, на якім зьверху прыстроены жоўты мядзяны дроцік. Пэндзаль бярэцца з мяккай шчаціны. Кожны раз, як яго памакнуць у ляк, лішку апошняга зьнімаюць, абціраючы пэндзаль аб памянёны дроцік. Калі грунтоўка, шліфоўка і лякіраваньне скончаны і ляк падсох, накладваюць золата, срэбра ці бранзуюць. Калі паверхня прадмету роўная і зусім гладкая, то пакладзеныя лісьцікі срэбра ці золата прыціскаюцца кавалкам ваты і ёю-ж зьлёгка расьціраюцца. Калі-ж паверхня прадстаўляе з сябе пляценьне, пакрасу і наогул нягладкая, то срэбра і золата расьціраецца мяккім шчацінным памазком.

Бранзаваньне ў агуле робіцца таксама, як і пазалота; розьніца толькі ў тым, што там лістовы матар'ял, а тут—парашок. Бронзавы парашок робяць гэтак: у пэўнай пропорцыі растапляюць медзь, волава і цынк; гэты сплаў мелюць у самы тонкі парашок, якім і бранзуюць.

# ЗЬМЕСТ.

Стар.

